# Газета для вас

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА–ПРУЖАНЫ

№45 (256) 10 — 16 лістапада 2000 г. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ НЕЗАЛЕЖНЫ ШТОТЫДНЁВІК. ВЫХОДЗІЦЬ СА СТУДЗЕНЯ 1997г.





## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:











## Ближе к Европе

**ПРУЖАНЫ.** В скором времени на трассе Пружаны—Ружаны будет построен туристический развлекательный комплекс. Он разместится в уютном месте, прозванном в народе "У бусла". Комплекс будет соответствовать всем европейским стандартам, иметь заправочную станцию, гостиницу, ресторан и другие современные коммуникации. Проект взялась финансировать иностранная фирма вместе с белорусскими пайщиками.

Место отдыха рассчитано на охотников-любителей, в том числе и на зарубежных гостей, а так же на всех желающих приятно провести время за городом, поправить свое здоровье и отдохнуть от повседневных проблем.

В настоящий момент уже ведутся подготовительные работы, к которым привлекаются строительные кампании.

*Юлия ТЕЛЬПУК.*

● *10 ЛІСТАПАДА — СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ МОЛАДЗІ*

## КРЫЗІС КРЫЗІСАМ, А ВЯСЕЛЛІ СПРАЎЛЯЮЦЦА

*За 10 месяцаў 2000 года на Івацэвіччыне адбылося 370 вяселляў. Цікава, што асабліва актыўна ўступаюць у шлюб у сакавіку, чэрвені, кастрычніку, вельмі неахвотна ў красавіку і снежні.*

*НА ЗДЫМКУ: новую сям'ю стварылі Аксана і Андрэй Пукала з Івацэвічаў.*

*Фота Аляксандра ГОРБАЧА.*

## Вынікі "спаборніцтва"

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Па выніках "спаборніцтва" за дзевяць месяцаў гэтага года жывёлаводы калектыўных гаспадарак Івацэвіцкага раёна займаюць 12-е месца сярод 16 раёнаў вобласці. І па надоях, і па сутачных прывагах жывёлы паказчыкі ніжэйшыя, чым за такі ж перыяд летась.

Так, валавая вытворчасць малака ў параўнанні з мінулагоднім склала 93 працэнты. Ад кожнай каровы надоена па 1739 кілаграмаў малака, на 54 кілаграмы менш, чым летась. Па вобласці гэты паказчык складае 1893 кілаграмы.

Сярэднясутачная прывага буйной рагатай жывёлы склала 318 грамаў (мінус склаў 64 грамы). Па вобласці — 334. Зменшылася таксама пагалоўе грамадскай жывёлы, у тым ліку і кароў.

У сувязі з дрэннай забяспечанасцю кармамі на стойлавы перыяд, асабліва сенажом, у прыватным сектары гаспадары зараз вымушаны збываць кароў.

Як бачым, вынікі і раённага, і абласнога "спаборніцтваў" сярод жывёлаводаў ніяк не садзейнічаюць росту прадукцыйнасці працы і яе вынікаў. Ці патрэбна тады такое працоўнае саперніцтва?

*Мікалай ДЗМІТРУК.*

## ПЕРШЫ ПРЫТУЛАК

**БАРАНАВІЧЫ.** Тут адкрыўся першы на Брэстчыне дзіцячы сацыяльны прытулак. Пад гэтую ўстанову пераабсталяваны адзін з былых дзетсадкоў і разлічаны на 35 месцаў. Сюды будуць змяшчацца тыя дашкольнікі ці вучні, якія засталіся без апекі бацькоў або трапілі ў нейкую экстрэмальную сітуацыю. Тут яны змогуць знайсці часовы прытулак, атрымаюць патрэбную дапамогу, карацей — усё неабходнае для жыцця.

*Кастусь ДЗЯМЧУК.*

## Новае жыццё царквы

**БЯРОЗА.** Учора ў горадзе адбылося асвячэнне царквы Пятра і Паўла, якая адчынілася пасля капітальнай рэканструкцыі. Стараннямі айца Георгія, прыхаджан, а таксама дзякуючы матэрыяльнай падтрымцы будаўніцтва райвыканкамам, прадпрыемствамі і гаспадаркамі раёна старую царкву цяпер не пазнаць: адрамантавана і аздоблена памяшканне, на якім з'явіліся 13 серабрыстых купалаў. Дарэчы, айца Георгія ў народзе называюць бацюшкай-прарабам: на яго рахунку рэканструявана бярозаўская царква ўжо трэцяя, дзве іншыя пабудаваны ў Расіі і г. Белаазёрску (царква Серафіма Сароўскага).

Удзел у асвячэнні храма ў Бярозе прыняў глава праваслаўнай царквы Беларусі — патрыярх Філарэт.

*Валянціна ЗАСІМ.*

## Спирт потёк рекой

**БАРАНОВИЧИ.** 12 тысяч литров чистого спирта похищены со спиртзавода, принадлежащего совхозу "Савичский". Если быть точной, то не 12, а 11.999 литров. Хищение совершалось, естественно, не одним человеком, а группой, в состав которой вошли вполне приличные, на первый взгляд, люди. Возбуждено уголовное дело.

*Галина СТРОЦКАЯ.*

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Откуда разногласия?

*Лидер Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада) Николай Статкевич считает, что основной причиной нынешних разногласий между ним и членами Координационной рады демократических сил (КРДС) является различное отношение к кандидатуре от оппозиции на президентских выборах. Об этом он сообщил в интервью БелаПАН.*

Напомним, что недавно Статкевич заявил, что кандидатом от оппозиции не может быть руководитель и даже член какой-либо из демократических партий, так как другие партии никогда не согласятся с этим. По мнению лидера белорусских социал-демократов, всем оппозиционным нынешнему режиму силам необходимо создать широкую коалицию, в которую бы могли войти и Партия коммунистов белорусская, и Либерально-демократическая партия. Эта коалиция должна поддержать единого независимого, беспартийного кандидата, который, вместе с тем, устраивал бы все партии коалиции. И такие кандидаты, по словам Статкевича, есть.

## "Дикая охота" П. Шеремета

*Ровно 4 месяца назад - 7 июля 2000 года - в районе Национального аэропорта "Минск" исчез оператор Общественного российского телевидения Дмитрий Завадский. Фильм Павла Шеремета "Дикая охота", посвященный этим событиям, показан на ОРТ 8 ноября в 22.10.*

По сведениям БелаПАН, в ходе расследования уголовного дела, возбужденного транспортной прокуратурой Республики Беларусь по исчезновению Завадского, были выявлены подозреваемые. По некоторым сведениям, это несколько бывших и два действующих сотрудника спецподразделений МВД Беларуси. 5 из них, как сообщил Шеремет, при содействии Федеральной службы безопасности России арестованы, двое - сотрудники службы безопасности белорусского президента - находятся в розыске. Хотя своей вины они не признают, но имеются веские доказательства их причастности к похищению Завадского. О самом Дмитрии никаких достоверных сведений не получено. Сейчас расследованием уголовного дела занимается непосредственно прокуратура Республики Беларусь совместно с МВД, КГБ, прокуратурой города Минска и транспортной прокуратурой. В самой следственной группе произошли некоторые изменения, несколько следователей выведены из ее состава. В одно дело объединены эпизоды, связанные с убийством азербайджанской семьи весной этого года в Минске, убийством лидера белорусского отделения РНЕ в Беларуси Глеба Самойлова и с исчезновением Дмитрия Завадского. Предполагается, что Завадский в интервью "Белорусской деловой газете" рассказал о задержанном в Чечне в начале нынешнего года белорусском гражданине, подозревавшемся в сотрудничестве с силами чеченского сопротивления. Задержанный - один из руководителей белорусского отделения РНЕ, бывший боец спецподразделения "Алмаз" Валерий Игнатович.

Руководитель отдела специальных проектов ОРТ Павел Шеремет все 4 месяца вел расследование и съемки фильма о происшедшем со своим другом и коллегой Дмитрием Завадским, а также белорусскими политиками Виктором Гончаром, Юрием Захаренко. Во время приездов в Беларусь за журналистами этой телекомпании устанавливалась слежка, которая была зафиксирована сотрудниками службы безопасности ОРТ.

Фильм "Дикая охота" снимала дирекция общественно-политического вещания, но в его производстве участвовали почти все дирекции ОРТ.

## Пагадненне аб адзінай валюце

*Гэта адбудзецца на пасяджэнні Савета Міністраў Саюзнай дзяржавы ў Маскве. Як перадае карэспандэнт агенцтва РИА-Новости, аб гэтам у пятніцу паведаміў віцэ-прэм'ер расійскага ўрада Віктар Хрысценка. Па яго словах, пагадненне падпішуць прэм'ер-міністры дзвюх краін.*

З 1 студзеня 2005 года ў Расіі і Беларусі будзе ўведзена адзіная грашовая валюта, ролю якой будзе выконваць расійскі рубель. Але з 1 студзеня 2008 года будзе ўведзена "іншая" грашовая адзінка, адзначыў віцэ-прэм'ер. Адзіны эмісійны цэнтр з 2005 года будзе знаходзіцца ў Маскве. У той жа час месца знаходжання такога цэнтра з 2008 года яшчэ трэба будзе прадумаць, сказаў Хрысценка.

(БелаПАН).

УЗНАГАРОДЫ ЗНАЙШЛІ ГЕРОЯЎ

# ГЭТА ТРЭБА ЖЫВЫМ

*55 гадоў прайшло пасля Вялікай Айчыннай вайны, а яшчэ не ўсе героі яе вядомы, не ўсе ўзнагароджаны. Таму вельмі прыемна, калі ўзнагароды ўсё ж такі даходзяць да тых, хто заслужыў іх, абараняючы сваю Радзіму, наша жыццё, словам, заслужыў па праву сваёй крывёю і мужнасцю.*



*НА ЗДЫМКУ: як і 55 гадоў назад ветэраны І. Е. Скачкоў і В. В. Асіпік у страі. Здымак зроблены адразу пасля ўручэння ім узнагародаў.*

Праз 56 гадоў жыхар г. Івацэвічы Іван Емяльянавіч Скачкоў быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі і медалём "За адвагу" за фарсіраванне ракі Віслы ў жніўні 1944 года. І праз 55 гадоў ордэн Чырвонай Зоркі знайшоў Васіля Васільевіча Асіпіка (таксама жыхара г. Івацэвічы), які заслужыў гэты ордэн за знішчэнне кулямётнай кропкі праціўніка ў студзені 1945 года. Узнагароды былі ўручаны ветэранам у мясцовым ГДК 3 лістапада г. г.

Паважаныя героі, ветэраны Вялікай Айчыннай! Дзякуем Вам за ратны подзвіг, а таксама за тое, што Вы дачакаліся сваіх узнагарод. Дай Божа усім Вам здароўя!

*Наталля КАПЫЦІЧ.*

КРИМИНАЛ

## Постоянные хищения

**ПРУЖАНЫ.** В последнее время в райцентре участились кражи автомобилей с целью продажи хозяевам. Все происходит до абсурда просто. Сначала люди приходят к продавцу машины под видом покупателя, затем пользуются моментом, когда продавец отвлечется, крадут машину, после чего по телефону договариваются о выкупе и продают машину обратно владельцу. Пока что милиции не удается обнаружить наглых "коммерсантов", но поступают обещания, что в скором времени правосудие восторжествует.

*Юлия ТЕЛЬПУК.*

## Поздний вечер. Звонок в дверь...

**БАРАНОВИЧИ.** И вы, конечно, не успев подлететь к двери, ее отворяете, забыв, в какое неспокойное время живете. Для начала надо бы спросить: "Кто там?" Возьмите на заметку эту фразу и тогда с вами не случатся истории, произошедшие чуть ли ни одновременно в городе и районе.

В 23.00 в дверь пенсионерки позвонили, та отворила. Двое "добрых дядей" под угрозой расправы вынесли из квартиры деньги, аппаратуру, золото.

В Щербовичах в дом пожилых людей аналогичным образом вошли двое молодых, высоких, вооруженных ножом. Потребовали доллары, которых в доме не было и в помине. Тогда хозяев связали и начали поиски, увы, безрезультатные.

*Галина СТРОЦКАЯ.*

## Осторожно: маньяк

**ПРУЖАНЫ.** *С недавнего времени жители райцентра стали бояться выходить на улицы родного города в вечернее время. Все дело в том, что в Пружанах завелся маньяк, блуждающий в темноте по более узким улочкам, где обычно редко проезжают автомобили и нет уличного освещения.*

Сначала маньяк нападал на представительниц женского пола, но по последним сведениям уже перестал опасаться и мужской силы. Интересна его странная мания - душить прохожих, которых он, видимо, даже не знает в лицо, потому что на улице совершенно темно.

В первые несколько дней "чудовище" выходило на улицы 8 Марта, Ленина, Кобринскую, но потом перебралось к району больницы.

До настоящего момента ему не удалось довести свои злодеяния до конца, поэтому, к счастью, убитых его рукой нет, но напуганных уже более чем достаточно. Этим делом занялись сотрудники милиции, но до сегодняшнего дня маньяк еще гуляет на свободе, представляя большую угрозу для мирных жителей.

*Юлия ТЕЛЬПУК.*

ЗАЧАПІЛА

## "Не было б Беларусі?"

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Прысутнічаў некалькі дзён таму ў мясцовым Доме культуры на ўрачыстым вечары, прысвечаным чарговай гадавіне кастрычніцкага перавароту. Паслухаў дакладчыка, які сказаў літаральна наступнае: "Без Великой Октябрьской революции не было б Белоруссии", і жахнуўся. Дакладчык (а гэта прадстаўнік улады) не ведае ці не хоча ведаць гісторыі сваёй краіны. Было ж Вялікае княства Літоўскае, якое праіснавала звыш двух стагоддзяў. Быў Статут (першая Канстытуцыя ў Еўропе)1588 года, напісаны на беларускай мове і які дзейнічаў да 1840 года. Нарэшце, была Беларуская Народная Рэспубліка (БНР), якая ўтварылася ў 1918 годзе і затым была задушана бальшавікамі.

Гэта ж старонкі нашай гісторыі і іх нельга ні выкрасліць, ні абвергнуць, як некаторым хочацца. Жыве Беларусь!

*Сяргей СЛАВІНСКІ.*

МУЖНАСЦЬ

## У групе вадалазаў — наш зямляк

Закончыліся работы па пад'ёму целаў маракоў на падводнай лодцы "Курск", якая затанула ў Баранцавым моры. Стала вядома, што ў групе расійскіх і нарвежскіх вадалазаў быў наш зямляк. Гэта Сяргей Шмыгун. Ён родам з Баранавічаў. Закончыў Севастопальскую школу вадалазаў і служыць па кантракце ў Санкт-Пецярбургу.

З'яўленне ў групе вадалазаў нашага земляка-сведчанне ягонага высокага прафесіяналізму і мужнасці.

*Мікалай ДЗМІТРУК.*

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 8.11.2000 г. (у руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 2100—2700 | 2100—3000 | 2600 | 2000—2800 |
| Сала салёнае | 1800 | 1800—2400 | 2200 | 2500 |
| Алей (1 л) | 680—800 | 700—1100 | 660—750 | 660—980 |
| Яйкі | 700 | 500—650 | 700 | 600 |
| Малако (3 л) | 500 | 500 | 450 | 420 |
| Тварог | 600 | 550 | 600 | 500 |
| Масла сметанк. | 1800 | 1900 | 2000 | 1800 |
| Бульба | 80—100 | 100—120 | 80 | 50 |
| Цыбуля | 250 | 120—180 | 150—200 | 200 |
| Морква | 200 | 80—100 | 200 | 200 |
| Капуста | 80—90 | 60—80 | 100 | 100—150 |
| Грушы | 250 | 250—300 | 200 | 150 |
| Буракі | 60—80 | 40—60 | 60—80 | 100 |
| Мандарыны | 1300—1500 | 1500 | 1500 | 1500 |
| Грэцкія арэхі | 1000 | 1500 | 1000 | 1200 |
| Яблыкі | 200—300 | 200—750 | 100—150 | 100 |
| Памідоры | 800 | 700—800 | 500 | 500—600 |
| Вінаград | 1800 | 900—1800 | 1600 | 1900 |
| Кавуны | — | 160—200 | 200 | — |
| Часнок | 800 | 800 | 1000 | 300—500 |
| Лімоны | 1200 | 1100—1200 | 1000 | 1200 |
| Апельсіны | 800 | 650—700 | 790 | 820 |
| Бананы | 700—800 | 720—750 | 790 | 700—940 |
| Гранаты | 1600 | 1500 | 1500 | 2500 |
| Грэчка | 600—660 | 650 | 650 | 700 |
| Макар. вырабы | 320—460 | 300—400 | 510—550 | 370—600 |
| Рыс | 430—450 | 400—420 | 400—430 | 460—490 |
| Манныя крупы | 460 | 460 | 400—500 | 400 |
| Проса | 300 | 350 | 360 | 360 |
| Цукар | 540 | 540 | 540 | 520 |
| Мёд | 3.600 | 4.000 | 3.600 | 4.000 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1085 | 1150 | 1080 | 1150 | 1085 | 1150 | 1070 | 1100 |
| 1 дойчмарка | 460 | 480 | 460 | 480 | — | — | — | — |
| 1 рубель Расіі | 38,5 | 40 | 38,5 | 40 | 38,5 | 40 | 38 | 40 |

● МАСС-МЕДИА

# ЧТО ОСТАНЕТСЯ ОТ НЕЗАВИСИМОЙ ПРЕССЫ НАКАНУНЕ ПРЕЗИДЕНТСКИХ ВЫБОРОВ?

***Прошло два месяца с тех пор, как власти в лице Госкомитета по печати уведомили редакции газет о предстоящей регистрации (перерегистрации) в соответствии с новым Гражданским кодексом и президентским декретом № 11 от 16 марта 1999 года.***

Что изменилось за это время? Как идет процесс этой (пере)регистрации редакций СМИ? Что можно посоветовать редакторам газет, переживающим за короткий срок третью по счету подобную кампанию?

Лично у меня сложилось впечатление, что некоторые редакторы газет пока недооценивают всю опасность предстоящей перерегистрации. Между тем власти собираются провести ее со всей серьезностью. Кто не успеет "оформить бумажки" до означенного срока (до 1 января 2001 года), рискует быть закрытым. Надеяться на милость регистрирующих органов (облисполкомов и Мингорисполкома) едва ли стоит. Для либерализма у власти просто нет оснований: к президентским выборам информационное поле страны должно быть очищено от всяких "сорняков" типа оппозиционной прессы.

Следует отметить, что сама процедура (пере)регистрации редакций СМИ сложна и обременительна. В этом мне довелось лишний раз убедиться при посещении учетно-информационного отдела комитета по экономике и рыночным отношениям Мингорисполкома, который занимается вопросами регистрации коммерческих и некоммерческих организаций. Редакциям газет предлагается регистрироваться как вновь создаваемым организациям. Для этого надо представить порядка десяти документов, в частности: заявление установленной формы с просьбой произвести государственную регистрацию редакции; копию решения о создании коммерческой (некоммерческой) организации; нотариально заверенные копии учредительных документов; платежный документ, подтверждающий внесение денежного вклада в уставной фонд; документы, содержащие сведения о собственниках имущества; справку налогового органа о предоставлении учредителем декларации о доходах и имуществе; гарантийное письмо, подтверждающее право на размещение редакции по месту ее нахождения; платежный документ, подтверждающий внесение платы за государственную регистрацию; заполненную анкету установленного образца со сведениями, необходимыми для решения вопроса о государственной регистрации редакции газеты или журнала.

Как видим, документов надо собрать много, походить по различным учреждениям, посидеть в очередях, отдать немалую сумму денег. Нужно получить у местных начальников письмо "о размещении редакции по месту ее нахождения" (звучит-то как абсурдно! - М.П.). Для всего этого может просто не хватить времени. Тем более что в вышеуказанном отделе Мингорисполкома "на конвейере" лежит около 20 тыс. материалов. А редакции газет должны стать "в очередь", как и другие субъекты хозяйствования.

К сведению: на сегодняшний день из негосударственных печатных изданий общественно-политической направленности (что, собственно, и можно назвать независимой прессой) прошли перерегистрацию меньше 10. При этом использовались различные организационно-правовые формы: закрытые акционерные общества, общества с дополнительной ответственностью, унитарные предприятия, учреждения.



**Михаил ПАСТУХОВ, доктор юридических наук, руководитель Центра правовой защиты СМИ при ОО "Белорусская ассоциация журналистов"**

Что можно сделать в оставшееся время? Тем, у кого нервы слабы и кто боится возможных последствий, советую немедленно бежать всей редакцией в учетно-информационный отдел облисполкома (Мингорисполкома), в налоговую инспекцию и другие государственные учреждения, занимать очереди и сидеть там с утра до вечера. Если у вас есть деньги или имущество, то их нужно перевести на счет уставного фонда. Если необходимых средств не найдется, то оформляйте редакцию в виде учреждения с указанием лиц - собственников имущества. Эти лица должны взять на себя ответственность по всем обязательствам редакции.

Самым трудным может оказаться получение от местных властей гарантийного письма, подтверждающего размещение редакции по месту нахождения. Регистрационную беготню следует начать с решения этого вопроса. Если такой "гарантии" исполком не даст, то этим можно и закончить свое хождение по кабинетам власти. С вами, как говорится, все ясно. Ведь отказом в выдаче "гарантии" вам дают понять, что вашу газету относят к разряду неблагонадежных.

Общественное объединение (ОО) "Белорусская ассоциация журналистов" обеспокоено сложившейся ситуацией. В адрес главы правительства В.Ермошина, руководителя администрации президента М.Мясниковича, председателя Госкомитета по печати М.Подгайного и председателя Мингорисполкома М.Павлова направлены письма, в которых высказан протест против кампании перерегистрации редакций СМИ. В них отмечается, что из нового Гражданского кодекса вовсе не вытекает необходимость преобразования редакций СМИ в другие организационно-правовые формы. И президентский декрет № 11 от 16 марта 1999 года касается только регистрации субъектов хозяйствования. Поэтому "притягивание" редакций газет к общей кампании регистрации (перерегистрации) субъектов хозяйствования является необоснованным.

ОО "Белорусская ассоциация журналистов" поставила перед властными структурами вопрос о возможности сохранения редакции СМИ как допустимой организационно-правовой формы деятельности и потребовала, чтобы местные власти не настаивали на перерегистрации редакций газет в качестве вновь создаваемых юридических лиц. Однако питать особые надежды на разумение нынешних властей, которые, собственно, и затеяли не основанную на законе перерегистрацию редакций СМИ, на мой взгляд, вряд ли стоит. Дадут ли они вообще ответы на письма журналистской организации?

● ЗНАК БЕДЫ

# Самое главное для детей — деньги?

***Мысль о том, что в обществе происходят коренные изменения, переориентация ценностей с духовных на материальные, скорее всего, правильная. Проверить её верность легче всего на детях... Вот какие истории рассказал инспектор инспекции по делам несовершеннолетних РОВД Александр ГОРДЕЙКО.***

— Мы очень часто в последнее время сталкиваемся с тем, что дети воруют, забирают деньги из дома своих же родителей, т. е. у себя. Как правило, стащив деньги (а порой это не только наши рубли, а и валюта, которую дети сами и меняют), отправляются в Барановичи. Там они покупают друг другу всяческие безделушки, сладости, словом, транжирят. Могу рассказать немало таких происшествий.

Два друга договорились взять у одного из них дома деньги. Правда, тот, чьим родителям они принадлежали, сам брать не хотел — попросил друга. И он согласился. Из всей суммы, которая хранилась дома, они стащили лишь некоторую часть (чтобы было незаметно), поменяли валюту, взяли такси и отправились в Барановичи транжирить.

Родители, естественно, от такого поведения детей в шоке. Ведь, бывает, такой тарарам в квартире наводят их деточки, выискивая, куда папа и мама положили денежку.

А совсем недавно произошла история — сыночек, ученик второго класса, взял стодолларовую купюру и понёс в школу похвастаться — смотрите, какой я "крутой"! Там ребятки старших классов сразу же распорядились судьбой банкноты, отобрали её.

Происходит такое очень часто и опять-таки по вине родителей. Не учат они детей обращаться с деньгами. Что будет дальше, если своё отношение к деньгам дети будут формировать самостоятельно? Ведь главное не деньги, а человек. Кому это объяснять — детям? Или родителям?

*Записала Наталья КОПЫТИЧ.*
*г. Ивацевичи.*

● КОНКУРС

"САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*НАТАША, по гороскопу — Близнецы. Люблю с друзьями в выходные дни отдыхать на природе. Музыку предпочитаю отечественную; нравится певица Алсу, певец Энрике Иглесиас, любимый инструмент — скрипка.*
*Нравятся обаятельные мужчины (как Дэвид Духовный), умеющие очаровывать девушку, красиво ухаживающие, благородные душой.*

# Разбойное нападение на редакцию независимой газеты "Шаг"

***В Барановичах рано утром 5 ноября совершено разбойное нападение на редакцию независимой региональной газеты "Шаг". Об этом БелаПАН сообщил главный редактор газеты Александр Лобков. Злоумышленники похитили все компьютеры, принтеры, сканеры и другую оргтехнику, необходимую для выпуска газеты.***

Как рассказал работник охраны, на него было совершено нападение, он был избит и связан. Угрожая пистолетом, нападавший потребовал у охранника ключи от кабинетов. Ключей не оказалось. Тогда налетчики взломали дверь в кабинет, где велась верстка газеты. Сначала, по словам охранника, которому не только связали руки и ноги, но и заклеили глаза, преступники стали выносить оргтехнику в коридор к входной двери, а затем уже вынесли ее на улицу, где и погрузили награбленное имущество на автомобиль и скрылись.

По словам редактора газеты, милиция начала расследование. На месте происшествия побывала оперативная группа, которая произвела осмотр редакции и выполнила все необходимые действия.

По мнению Лобкова, это нападение - "попытка заставить замолчать газету, которая в последнее время сделала значительный шаг вперед как в расширении региона распространения, так и в качестве публикаций"; два месяца назад это издание стало первой в республике ежедневной региональной независимой газетой. В пользу такой версии свидетельствует несколько фактов. Во-первых, как сообщил Лобков, налетчики помимо компьютеров и принтеров, похитили прикрученное к стене устройство для обеспечения работы компьютеров по локальной сети, стоимостью 25 долларов США, но не тронули при этом несколько новых картриджей к принтерам, цена которых несколько сотен долларов США. Не взяли они и факс, стоявший тут же на столе.

Кроме того, злоумышленники совершили налет именно на офис редакции газеты "Шаг", хотя в здании, где размещается редакция, расположено еще несколько фирм, а дверь напротив редакции и вовсе ведет на склад торговой фирмы, где хранятся материальные ценности. И, наконец, налетчики перерезали только те телефонные провода, которые обеспечивали связь редакции.

По свидетельству охранника, перед тем, как ему заклеили глаза, уже лежа на полу, он увидел на одном из нападавших брюки военного образца и воинские ботинки.

*Юрий АЛЕКСЕЕВ, БелаПАН.*

*Лапка венгерского цыплёнка 20 лет назад впервые стала на барановичскую землю. Событие не обошлось без эксцессов. Даже с учётом того, что Венгрия находится не за горами и не за морями, куры и цыплята этой страны могли попасть в нашу только по небу. Разумеется, не на собственных слабых крылышках. Крылья самолёта подходят больше. Но осень, нелётная погода... Именно эти два обстоятельства и явились виновниками того, что барановичская газета 20 лет назад опередила события. Написала, что венгерские бройлеры уже обживают новые птичники на фабрике "Дружба", а оказалось, что самолёт вовремя не приземлился в Минске из-за погодных условий. И на фабрике в это время наши специалисты ждали ночь напролёт пернатых. Да не просто ждали, а в соответствующей экипировке — ладно, белые халаты не помеха, а вот эдакие целлофановые валенки на ногах...*

● *УЧИМСЯ ХОЗЯЙСТВОВАТЬ*

# ЛЮДИ РАБОТАЮТ ЧЁТКО, ПЕТУХИ КРИЧАТ ЗВОНКО

— А в птичнике — 32 градуса тепла. Это сегодня мы умные, все знаем, а тогда никто и подумать не посмел, что можно повернуть рычажок и уменьшить температуру.

— Парились,— с иронией вспоминает очевидец событий, тогда бригадир птицеводческой бригады, а ныне главный зоотехник фабрики Василий Петрович Маркевич. — По утру из обувки своей воду просто выливать пришлось.

А цыплята благополучно прилетели на следующий день и ...процесс пошёл. По-русски. Объяснение этому имеется вполне логичное: нашим специалистам так надоели указания венгерских, что едва те покинули фабрику, как наши тут же заработали по-своему. А птица — она, оказывается, ой как капризна, вольностей не любит да и не привыкла. Благо, наши специалисты тоже не лыком шиты, быстро это поняли и тут уж действительно процесс пошёл.

Небось, у каждого из нас в жизни бывали пренеприятнейшие события, когда некто бросал нам обидное: куриные мозги. Да, мозг у курицы мал, но его хватает, чтобы очень даже неплохо соображать. Оказывается, это безобидное на первый взгляд существо само в состоянии обидеть кого хочешь. Например, человека. Курино-петушиное стадо до того привыкает к своей птичнице, что другого человека просто отказывается воспринимать. Не раз и не два бывали случаи, когда петухи бросались клевать новенького нешуточным образом. Только одежда и повадки прежней хозяйки могут спасти от кровавых разборок.

Между прочим, даже в огромном птичнике ни один петух никогда не перепутает своих подруг с чужими. И на сторону ходить он тоже не склонен. Его пернатые подружки отвечают ему взаимностью, но они ещё более тонкие натуры. Вот сейчас перевели мы часы и вроде нормально себя чувствуем, а на птицефабрике упала яйценоскость. Не по вкусу такие эксцессы курице. Хотя для меня лично даже после объяснения главного зоотехника так и осталось загадкой, как они умудряются определять время? Живут ведь всю свою маленькую куриную жизнь в закрытом помещении при одинаковой температуре и освещённости, при одинаковых кормах.

Стадо на птицефабрике приличное — миллион двести голов, которые в день съедают 120 тонн комбикорма, но и отдача немалая — в год 35 миллионов яиц и 13 тысяч тонн мяса. 40 тысяч курей убивается ежедневно.

— Сейчас перед фабрикой стоит задача самим произвести, переработать и продать свою продукцию.

— Только так можно выжить, только так можно рассчитывать на эффективную работу,— наш разговор с директором птицефабрики "Дружба" начался вовсе не с праздничных нот. — Сейчас у нас проблема со сбытом, завалены мясом птицы. Народ обнищал, не покупает. А Москва то берёт, то не берёт. И вообще, будь мы самостоятельны, дела обстояли бы совершенно иным образом. А то ведь эти указивки — не помощь в работе, а помеха. Ни один серьёзный вопрос решить не помогут. Сейчас вот надумали в Столине птицефабрику возрождать. А зачем, позвольте спросить? Если есть у государства лишние деньги, то отдали бы их нам на реконструкцию.

На Бога надейся, а сам не плошай? Впрочем, Константин Петрович в этой жизни ни на кого надеятся не привык. Это я поняла слушая его, а потом побывав на фабрике и поговорив с людьми. Приятно было видеть работающее производство, где люди довольны и условиями труда (очень даже нелёгкими), и оплатой. Устроится на птицефабрику и сегодня, и вчера было сложно, что можно расматривать как показатель экономической стабильности предприятия.

Птицефабрика, занимающая 9 км по периметру, недавно стала шире и длинней — присоединены к ней два хозяйства района — "Приозёрный" и "Тепливоды".

— Я никогда не работал в колхозе, всего 25 лет в птицепроме, но ничего страшного в присоединении не вижу (хорошего, правда, тоже). Глаза боятся, а руки делают,— таково было резюме Константина Петровича. — Земля, если на ней хозяйствовать разумно, ещё никому помехой не была.

Сегодня птицефабрика с производственными участками насчитывает 1893 человека работающих. Дружно идёт уборка оставшегося урожая, возделываются поля под новый урожай. И я ни на йоту не сомневаюсь, что года эдак три спустя урожайность достигнет хорошей отметки. Не беда, что нынче собранного урожая хватило на корм птице на 45 дней. Константин Петрович хозяйствовать умеет и коль сумел удержать на плаву фабрику-гигант, то и с двумя небольшими хозяйствами справится.

— Хватало у нас проблем и до присоединения хозяйств,— замечает директор. — От Запада по технологиям мы отстали на все 20 лет. Мы постоянно участвуем в выставках, ездим по заграничным командировкам и благодаря этому владеем информацией и ведём реконструкцию. Вот сейчас уже реконструировали помещение. Сумму затратили немалую, но она себя уже окупила, потому что благодаря новому методу куры не болеют, экономится вода, проще птичнице. А изобретение-то всего и представляет собой эдакую блестящую пипетку, клюнув которую курица получает капельку воды. Уже не надо, как раньше, наливать её, чтобы все вместе — здоровые и больные — куры пили из одной ёмкости.

Сейчас в планах реконструкция вентиляции, отопления. Тут и вовсе всем историям история приключилась. Константин Петрович немало времени затратил на поиски заведения, которое могло бы переделать документацию на несовершенную систему вентиляции (вытяжка почему-то расположена внизу). Ходил-ходил по всяким там НИИ и ничего не выходил. Посоветовали даже в институт аэродинамики обратиться. А тут как раз голландцы приехали, Константин Петрович и рассказал о неурядицах. Голландский инженер воздухообмен просчитал за час.

— Мы нашли бы себе инвесторов и горя бы не знали, существуй в нашей стране нормальная инвестиционная политика,— сокрушается К. П. Карпук.

Увы, на инвесторов рассчитывать пока не приходится, но и тратить, например, электроэнергии в 2,5 раза больше, чем на Западе, не хочется. И специалисты во главе с директором думают. И надо сказать, это им неплохо удаётся, потому что команда собрана сильная. Возьмите того же главного зоотехника, который начинал с бригадиров, начальником цеха, с 1996 года — главный зоотехник. К его словам прислушиваются, его ценят. Он знает технологическую цепочку не теоретически, а практически. Первым из специалистов на строящуюся фабрику был принят нынешний начальник цеха переработки Алексей Богдашич. Кстати, на сегодняшний день на предприятии замкнутый цикл: сами растят, сами продукцию производят.

И хоть директор не раз отмечал в разговоре, что уверенности в завтрашнем дне никакой, особого пессимизма на фабрике по поводу завтрашнего дня никто не испытывает. Развивается не только производство, но и инфраструктура: в жилом посёлке "Жемчужный" в этом году сдаётся 24-квартирный дом, в первом полугодии будущего года — такой же. Работают школа, сад, торговые точки. На последних вообще стоило бы задержаться подробней, потому что птицефабрика "Дружба" имеет развитую сеть фирменной торговли. Последнее новшество — гриль-бар на колёсах, что обрёл прописку в Северном микрорайоне. Говорят, вкусно.

— А всего этого могло бы и не быть,— как бы между прочим сказал при встрече председатель Барановичского райисполкома Николай Владимирович Доменикан.

И тут пролилась на белый свет тайна появления на Барановичской земле птицефабрики "Дружба". Проходил в конце 70-ых в нашем районе союзный семинар по птицеводству. Из уст И. А. Бахтина, тогдашнего главы птицепрома Союза, прозвучала информация, что будут строиться 6 новых фабрик. Николай Владимирович как сторонник новшеств тут же ухватился за информацию:

— Вот бы у нас! Птицефабрики у нас же есть, так что с кадрами проблемы не будет, с кормами тоже, потому что есть мелькомбинат. Да и есть большой кусок земли, у которого бальность пашни всего-то 19,— приводил доводы Доменикан.

Бахтин явно намотал на ус сказанное, да и промышленный Барановичский район ему явно понравился. И буквально через несколько месяцев Беларуси выделяют средства под строительство фабрики. Но республиканские власти решают возводить её в Несвиже. Николай Владимирович был не промах, да и знал, что фабрика изначально предназначается не для Несвижа, а для Барановичей. Шанс он упустить не мог и давай звонить в Москву Бахтину. Тот слово свое сдержал и вопреки решению республиканского начальства Барановичский район заполучил "Дружбу".

*Галина СТРОЦКАЯ.*
*г. Барановичи.*

● *РЫНАЧНЫ РАКУРС*

# Што хвалюе гандляроў Пружанскага раёна?

*Чарговая хваля незадавальнення пракацілася сярод беларускіх "чаўнакоў". У сувязі з тым, што ўстанаўленне з Расіяй саюзных адносін чамусьці падразумявае і ўвядзенне мытняў і мытных падаткаў з тавараў, што ўвозяцца з Расіі, зараз прыкладна на 40 працэнтаў павялічваецца велічыня пабораў з прадпрымальніка. У многіх беларускіх гарадах прафсаюзнымі лідэрамі "чаўнакоў" аб'яўлена перадзабастовачная абстаноўка.*

*Якой бачыцца сітуацыя гандлярам на Пружанскім рынку, што хвалюе, як працуецца ў час пастаяннага ціску з боку ўлад?*

*Вось што расказалі нам некаторыя з гандляроў (назваць свае прозвішчы яны катэгарычна адмовіліся):*

**Жанна Віктараўна:** На нашым рынку гандлююць у асноўным брэсцкія, маларыцкія, кобрынскія прадпрымальнікі — вельмі разнашэрсная кампанія, якая да таго ж выкупіла месцы да Новага года, таму баставаць ім няма ніякага сэнсу.

**Сяргей:** Год сёлетні — вельмі неспрыяльны. Мінулая восень была для нас куды больш "ураджайнай"; людзі тады добра "падняліся" на бульбе, таму пакупнік быў з доўгім рублём. А сёння (махае рукой)... Купляюць вунь калготкі, пальчаткі, трусы ды ліфчыкі.

**Алена:** На нашым рынку сярод гандляроў няма адзінага лідэра, можа гэта і не вельмі добра, але мы звычайна прыслухоўваемся да таго, што робіцца на брэсцкіх рынках.

**Іна:** "Крутыя" гандляры тыя, хто за тыдзень зарабляе каля 400 у. а. Яны могуць сабе дазволіць месячную забастоўку, а калі я ўзяла грошы ў доўг на тавар, то мне ж трэба хутчэй зрабіць абарот ды грошы вярнуць. Хоць у прынцыпе я падтрымліваю тых, хто збіраецца баставаць — нельга так душыць прадпрымальніка.

**Сяргей:** З нас бяруць плату за месца, але вы паглядзіце, у якім стане наш рынак — стэлажы, лаўкі; калі моцны дождж, то з вуліцы (яна значна вышэй) цэлая рака сюды цячэ, наш гандлёвы рад у вадзе, мы носім дошкі, каб пакупнік мог дайсці да нас. А куды ідуць грошы, што бяруць з нас?

**Святлана Андрэеўна:** Кожныя паўгода прымушаюць мяняць дакументацыю, а зараз гэты падатак увялі — значыць і мы будзем вымушаны падняць цэны на свой тавар, каб акупіцца. А пасля будуць казаць, што прадпрымальнік душыць пакупніка.


Фото IREX/ProMedia.

**Інеса:** Няўжо нельга ўвесці цвёрдую стаўку, няхай і значнага памеру, але каб не ператвараць нашу працу ў папяровую. Пакуль якая-небудзьдама перамерае дзесяць блузак, я павінна быць каля яе, дапамагаць, а там яшчэ хтосьці тое-сёе купляе — і трэба запаўняць паперы. Навошта ўсё гэта? Кажуць, што наша праца прымітыўная, так сказаць "купі—прадай", але ж нас так паперамі задушылі, што атрымліваецца цэлая канцылярыя. Можа гэта спецыяльна робяць, каб мець магчымасць трэсці нас як грушу... Нічога не застаецца, як баставаць...

*Гутарыў Аляксандр МІХАЛЕНКА.*

# ЦЯЖКА ЖЫЦЬ БЕЗ НАДЗЕІ

*Устали все мы от борьбы за корку хлеба,
От вечного безденежья и дыр.*
*Евгений ТИХОНОВИЧ, рабочий Минского электротехнического завода.*

Цяпер на Беларусі цяжка ўсім. Але асабліва малазабяспечаным, да ліку якіх адносяцца і шматдзетныя сем'і. Такіх сем'яў, дзе гадуецца чацвёра і больш дзетак, у Белаазёрску (па папярэдніх падліках) — 25. Практычна, кожны дзень жыцця ў такіх сем'ях — гэта бітва за выжыванне. Сёння сярэдні работнік на Беларусі атрымлівае сярэднюю зарплату, якая складае 1,25 мінімальнага спажывецкага бюджэту (МСБ). Калі сыходзіць з таго, што менш МСБ спажываць нельга без рызыкі для здароўя, то можна зрабіць выснову — працуючыя бацька і маці не могуць пракарміць (толькі пракарміць!!!) і аднаго дзіцяці. Нараджэнне другога дзіцяці азначае ўжо натуральнае жабрацтва, калі сям'я перабіваецца з хлеба на малако. Таму шматдзетныя сем'і сёння ў катастрафічным стане, і толькі дзякуючы працы, вялікаму цярпенню і вытрымцы, яны пакуль, калі так можна сказаць, не прайгралі гэтую бітву. Аднак сілы на зыходзе, бо бясконца так цягнуцца не можа. Немагчыма цяжка жыць без спадзявання на лепшае, без надзеі на будучыню.

Па гэтай прычыне шматдзетныя сем'і Белаазёрска вырашылі аб'ядноўвацца, бо вядома, што калектывам, адной дружнай сям'ёй лягчэй пераадолець цяжкасці.

— Я з самага дзяцінства марыла мець вялікую сям'ю. Муж, мой любімы чалавек, быў саліднарны са мною. І аднаго за другім Бог нам даваў дзетак. Калі пятаму дзіцяці —- дачушцы — споўнілася 2 гады, муж трагічна загінуў, —з сумам расказвае адна.

А другая дадае:

— Застацца адной з малымі дзецьмі — гэта трагедыя. Але не лягчэй і тым, у каго ёсць бацька і маці. Даводзіцца лічыць кожную капейку, каб пратрымацца на гэтым свеце, аднак даволі часта здараецца, што сядзім нават без хлеба. А пра малако часцей за ўсё нават і не марым...

Гэта сапраўды так. Крыху лягчэй тым, у каго побач у вёсках ёсць састарэлыя бацькі. Яны са сваёй невялікай пенсіі і нейкую капейку выдзеляць, і малако ці яйка перападзе. Зямельны ж участак мае практычна кожная шматдзетная сям'я.

У сярэднім на аднаго члена такой белаазёрскай сям'і прыпадае ад 3 да 12 тысяч рублёў. У некаторых на чалавека перападае ўсяго ... 100 рублёў на дзень. Практычна, на булачку ў школьнай сталоўцы. А што есці дома? А такое жаданае марожанае? А цукеркі? А банан, апельсін? А жуйка? Ці можа такое дзіця вучыцца ў музычнай школе? Дзе ўзяць грошы на дарагі інструмент? Ці будзе яно мець сілы наведваць танцавальны гуртох ці спартыўную секцыю? Не трэба забываць, што жывем мы практычна ў чарнобыльскай зоне. Якое ж можа быць здароўе пры такім харчаванні?

Хто дасць адказы на гэтыя пытанні? Хто можа дапамагчы такім сем'ям?

Адна мама з горыччу прызналася, што яна заўсёды марыла аб падарожжы са сваёй сям'ёй па знакамітых мясцінах Беларусі. А якое дзіця не марыць пабываць у цырку, заапарку ці лялечным тэатры?

Сход вырашыў звярнуцца па дапамогу ў дзяржаўныя органы. Калі ж там не дапамогуць (надзея слабая, бо і яны не маюць грошай), то давядзецца шукаць падтрымкі за мяжой. Як крыўдна і балюча ўсведамляць, што ў сваёй дзяржаве ты нікому не патрэбны, што ў роднай краіне пра цябе не проста забылі, а свядома адмовіліся! Бо яшчэ зусім нядаўна, год таму, дзяржава выдзяляла сродкі такім сем'ям на малако, сокі, нават масла, мяса, крупы...

Няхай людзі не падумаюць, што бацькі ў такіх сем'ях усе клопаты па выхаванні дзяцей перакладаюць на дзяржаву. Думаю, усім вядома наша зарплата, а выехаць некуды за мяжу — немагчыма, бо пакінуць такую сям'ю на доўгі час вельмі няпроста.

Дзеці ж у вялікіх сем'ях растуць чулымі, уважлівымі, ласкавымі, добрымі. Бачыла, як чатырохгадовая дзяўчынка несла з дзіцячага садка цукерку, каб падзяліць яе дома на 6 частак, хоць, я ўпэўнена, ёй і самой вельмі хацелася яе з'есці. У другой сям'і двухгадовая дзяўчынка пачаставала мяне яблыкам. Доўгі час я трымала яго як рэліквію...

Адна паважаная ў нашым горадзе жанчына неяк сказала:

— Мы ўсе павінны дапамагаць шматдзетным сем'ям, бо самі ў свой час свядома адмаўляліся ад дзетак, робячы аборты.

І яна стрымлівае свае слова. Выказваем ёй і такім жа добрым, як яна, людзям сардэчную ўдзячнасць.

*Раіса ЖМАЧЫНСКАЯ.*
*г. Белаазёрск.*



Фота IREX/ProMedia.

# ОБРАЩЕНИЕ К ДЕЛОВЫМ ЛЮДЯМ

Старинные традиции благотворительности возвращаются на нашу многострадальную землю.

В помощи сильных, умных и предприимчивых людей нуждаются многие: старики, инвалиды, многодетные семьи, бедные люди... И дай Бог, чтоб молодому поколению предпринимателей, руководителей предприятий, бизнесменов удалось помочь всем обездоленным.

Но есть несчастье, перед которым меркнет бедность и нужда, холод и голод... Это тяжелая, страшная болезнь — рак. И вдвойне ужасно, если эта болезнь настигает детей, не виновных в том, что их родители и деды отравили воду и воздух, засеяли землю ядерным пеплом Чернобыля.

Решать проблемы, встающие перед родителями и больными детьми, призвано созданное родителями республики общество "Дети в беде".

Муки детей, вынужденных принимать лекарство-яд, теряющих волосы и умирающих на руках у матерей и отцов, невозможно описать словами. Но не все так безнадежно: новые современные схемы лечения, разработанные немецкими специалистами, дают надежду на жизнь и выздоровление 80 заболевшим детям из 100.

Но для этого необходимы не только дорогостоящие лекарства и оборудование, но и элементарные вещи: чистое витаминизированное питание, соки, фрукты.

Родители больных раком детей г. Бреста и области обращаются к новым экономическим структурам, частным предпринимателям и фирмам, к крепко стоящим на ногах государственным предприятиям: Вы можете оказать помощь тем, кто в ней нуждается. Не медлите! Эти дети не могут долго ждать. Мы ждем Вашей помощи. Наш расчётный счёт 3015005190015 в УАК ПСБ г. Бреста, код 150501309.

Дополнительные справки можно получить по адресу: г. Брест, ул. Адамковская, 42, кв. 55, тел. 43-09-69, 43-04-44.

*Родительский комитет Белорусского республиканского общества "Дети в беде".*

# Усе "свае" — у Палацы

**ПАРЛАМЕНЦКІЯ ВЫБАРЫ АДБЫЛІСЯ, АЛЕ ГЭТАГА НІХТО, АКРАМЯ ЎЛАД, НЕ ПРЫЗНАЎ**

***Пасля першага і другога тура парламенцкіх выбараў дзяржаўныя СМІ не стамляліся трубіць аб іх "дэмакратычнасці" і "празрыстасці". Якіх толькі эпітэтаў не напрыдумлялі! Выбары ў нас аказваецца і свабодныя, і элегантныя, і інтэлігентныя.***

***Запрошаныя афіцыйным Мінскам міжнародныя назіральнікі павінны былі публічна пацвердзіць бездакорную арганізацыю і правядзенне ўладамі асноўных выбарных этапаў. Замежныя ваяжоры, якія адгукнуліся на слёзную просьбу Міністэрства замежных спраў, ні фармальна, ні юрыдычна не прадстаўлялі сваіх дзяржаў, таму не ўнушалі даверу. Для італьянца, вельмі падобнага на сіцылійскага мафіёзі, для "кантралёраў" з экзатычных азіяцкіх краін наведванне нашых выбарчых участкаў нагадвала экскурсію. Паўнацэнныя назіральнікі — паважаныя, вядомыя і незалежныя прадстаўнікі краін, накіраваныя па рашэнні парламентаў, былі ў яўнай меншасці. Хіба што Расія ды Украіна прыслалі афіцыйныя групы.***

Больш пільна і ўважліва сачылі за выбарамі ва ўсіх рэгіёнах рэспублікі назіральнікі ад грамадскіх аб'яднанняў — Руху за дэмакратычныя і свабодныя выбары, Беларускага рэспубліканскага клуба выбаршчыкаў, Беларускага Хельсінкскага Камітэта, Свабоднага прафсаюза Беларускага, Фонда імя Льва Сапегі, Цэнтра "Беларуская ініцыятыва", Беларускага жаночага інфармацыйна-каардынацыйнага цэнтра.

Шмат дзе назіральнікам замінаді наглядаць за выбарамі, не давалі кантраляваць падлік галасоў — нягледзячы на тое, што яны маюць на гэта права згодна з новым Выбарчым кодэксам.

*Расказвае старшыня Баранавіцкага аддзялення БХК Вячаслаў Болбат:*

— Участковыя камісіі акругі папярэджваліся аб тым, што на выбарах будуць прысутнічаць назіральнікі. Аднак 29 кастрычніка многіх прадстаўнікоў БХК сустрэлі ў штыкі і папрасілі пакінуць выбарчыя ўчасткі. Такія ж адносіны былі і да прадстаўнікоў іншых арганізацый і аб'яднанняў. Так, член Баранавіцкай арганізацыі ПКБ Рыгор Дружынін не змог трапіць на выбарчы ўчастак № 67 у вёсцы Куршыновічы Ляхавіцкага раёна. Прадстаўнік мясцовай "вертыкалі" выбіў з яго рук пасведчанне і бланк, пасля чаго сілай выштурхнуў з участка.



Фота IREX/ProMedia

Вёску Молчадзь наведала першы сакратар КНГ АБСЕ у Беларусі пані Беата Разумiловіч, якая зафіксавала парушэнне: не былі апячатаны ўрны для галасавання.

Незразумелыя рэчы тварыліся ў Івацэвіцкім раёне. Назіральнікі ад БХК засталіся вельмі здзіўленымі тымі парадкамі, што панавалі на выбарчых участках.

Каб аблегчыць працэдуру галасавання для жыхароў Майска, урну прывезлі ў вёску і паставілі яе ў мясцовым клубе. Міліцыянер пайшоў ад хаты да хаты і напамінаў людзям, каб ішлі галасаваць у клуб.

У Косаве прадстаўнікі "групы падтрымкі" кандыдата ў дэпутаты Фёдара Клюкача — вельмі каларытнай фігуры наменклатурнага асяродка — таксама пайшлі ў народ: хадзілі ад хаты да хаты і агітавалі галасаваць за абласнога чыноўніка. Ды і ён сам не сядзеў склаўшы рукі. Раз'язджаў па прадпрыемствах, сустракаўся з кіраўнікамі і адкрытым тэкстам загадваў галасаваць толькі за яго.

Другі кандыдат у дэпутаты — старшыня Ганцавіцкага райвыканкама Аляксандр Свірыд — пайшоў іншым шляхам. Падчас сустрэч з выбаршчыкамі яго шырокая натура прагла задобрыць людзей рознага кшталту падарункамі.

Па словах сябра Беларускага Хельсінкскага Камітэта Сяржука Русецкага з Бярозы, тут таксама зафіксаваны парушэнні. Невядома для якой мэты, але ў інтэрнатах складаліся спісы тых, хто не галасаваў у першым туры. 29 кастрычніка некаторым жыхарам райцэнтра тэлефанавалі з выбарчых участкаў і напаміналі пра грамадзянскі абавязак.

Як расказаў сябра БХК з Пружан Язэп Машкала, мясцовыя ўлады ўсяляк перашкаджалі назіральнікам. Па-першае, трох назіральнікаў не дапусцілі на ўчасткі, спасылаўшыся на нейкія недарэчныя прычыны. Па-другое, "вертыкаль" забараніла даваць ім інфармацыю пра вынікі выбараў.

Парушэнняў процьма. Гэта з'явілася падставай для Беларускага Хельсінкскага Камітэта выступіць з заявай аб фальсіфікацыі ўладамі вынікаў парламенцкіх выбараў.

*Аляксандр ЛАЎРАНЮК, сябра Беларускага Хельсінкскага Камітэта.*

# "Адраджэнне Айчыны"

У Бярозаўскім раёне дзейнічае грамадская жаночая арганізацыя "Адраджэнне Айчыны". Яна створана для таго, каб жанчыны не заставаліся сам-насам са сваімі праблемамі.

У нас зараз вельмі цяжкі час. Думаю, што многія жанчыны жывуць на мяжы псіхалагічнага зрыву, выкліканага цяжкім матэрыяльным становішчам, агульным крызісным станам нашага грамадства. Таму створаны крызісны цэнтр (вул. Леніна, 11"А", кв. 31, тэл. 2-53-84) будзе па магчымасці аказваць вам, дарагія жанчыны, юрыдычную і псіхалагічную дапамогу.

Да нас могуць звяртацца не толькі жанчыны, але і мужчыны па самых розных пытаннях.

Пачала выдавацца пакуль што раз у месяц наша недзяржаўная, незалежная газета "Наш голас" (наклад 299 экз.), у якую вы можаце звярнуцца са сваімі пытаннямі, думкамі, прапановамі. Яна павінна стаць люстэркам нашага жыцця. Прыемна, што на старонках першага нумару загучаў голас выдатнейшай жанчыны нашага раёна, знакамітай паэткі Ніны Мацяш. Спадзяемся, што яе паэтычнае і чалавечае слова знойдзе свой водгук у вашых душах. Вялікі дзякуй ёй за давер да нашага выдання.

Зараз наш цэнтр плануе заняцца вырашэннем пытання "чыстай вады", бо карыстацца вадой, дзе жалеза перавышае норму ў 20 разоў — гэта самазабойства. Хто хоча дапамагчы нам, званіце, трэба гэтую набалелую праблему вырашаць усім разам. Толькі аб'ядна̀ўшыся мы — сіла, якая зможа палепшыць наша жыццё, зрабіць яго годным.

*Тамара ШЧАПЁТКІНА, старшыня Бярозаўскай раённай рады Беларускага жаночага руху "Адраджэнне Айчыны".*

СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# Юзаф Крашэўскі

***У дзевяці кіламетрах ад Пружан у вёсцы Доўгае ёсць адметная мясціна. У 19-м — пачатку 20-га стагоддзя тут быў маёнтак славутага роду Крашэўскіх.***

Багуслаў Крашэўскі, уладальнік маёнтка на пачатку 20-стагоддзя, меў вялікія кніжныя зборы з аўтографамі Адама Міцкевіча, Зыгмунта Красінскага, Юльяна Нямцовіча і іншых вядомых людзей. Лёс гэтага кнігазбору трагічны: бібліятэка згарэла разам з маёнткам у 1915 годзе. Адступаючае расійскае войска не пашкадавала і драўляны касцёл, узор забудовы 19 стагоддзя, які знаходзіўся паблізу гасцінца Пружаны — Сялец. Праўда, частка кніг уцалела і была забрана жыхарамі вёскі Доўгае, але потым знішчана.

У гэтым маёнтку на пачатку 19 стагоддзя нарадзіўся Каятан Крашэўскі, польскі пісьменнік, астраном, аўтар гістарычных твораў, у аснове якіх пераважна падзеі, што адбываліся на Беларусі.

У Доўгаўскім маёнтку правёў сваё дзяцінства Юзаф Ігнацы Крашэўскі (1812-1887 г.г.), польскі пісьменнік, гісторык, мастак, грамадскі дзеяч. Ён вярнуўся ў маёнтак у 1834 годзе, адбыўшы пакаранне ў турме за ўдзел у антырасійскім паўстанні 1830—1831 гадоў. А сваю адукацыю Юзаф Крашэўскі атрымаў у Свіслацкай гімназіі, закончыў таксама Віленскі універсітэт.

У шматлікіх раманах, аповесцях аўтар выступаў супраць прыгонніцтва, стварыў, можна сказаць, дэмакратычны напрамак у польскай літаратуры. У падарожных замалёўках апісаў многія мясціны Беларусі, у тым ліку Пружаншчыны, жыццё і побыт беларускага насельніцтва. Наш зямляк праявіў сябе як добры мастак, стварыўшы вобразы беларускіх сялян, а таксама малюнкі прыроды. У ліку вядомых твораў "Пінск і Піншчына" (1838 г.), "Успаміны Валыні, Палесся і Літвы" (1840 г.), "Малюнак з жыцця і падарожжаў" (1842 г.), "Адзенне сялян і мяшчан з ваколіц Брэста, Кобрына, Пружан" (1860 г.) і іншыя.

Ю. І. Крашэўскі не застаўся ў баку ад падзей 1863—1864 гадоў. Ён рэдагуе выданне "Польскай газеты". Як вынік, ён быў высланы за мяжу і жыў у Дрэздэне.

Прыхільнікі творчасці Ю. І. Крашэўскага вырашылі наладзіць урачыстасці з нагоды 50-годдзя яго літаратурнай дзейнасці. Адбылося гэта ў Кракаве. Быў адчаканены медальён з выявай Крашэўскага. Дарэчы, адзін з іх выпадкова быў знойдзены на месцы былога маёнтка Крашэўскіх у вёсцы Доўгае.



На вонкавым баку медальёна рэльефны партрэт пажылога чалавека з высокім ілбом і густой барадой, што акаймляе строгі твар з арліным носам. Па перыметры надпіс: "Юзэф Ігнацы Крашэўскі". На адваротным баку медальёна дата — 1879 і словы "Памятка ў гонар 50-гадовага юбілею 3 кастрычніка ў Кракаве". Маецца на ўвазе 50-годдзе літаратурнай дзейнасці пісьменніка.

Пасля 1879 года пры вяртанні ў Дрэздэн у Берліне Крашэўскага арыштавалі і адправілі ў турму Мабіт. Было распачата следства па абвінавачванні пісьменніка ў дзяржаўнай здрадзе. Гэтая вестка ўстрывожыла польскую грамадскасць. Ніякія захады не дапамаглі. 72-гадовага пісьменніка асудзілі на тры гады турэмнага зняволення.

Ю. І. Крашэўскі памёр 19 сакавіка 1887 года. Спадчына нашага земляка — тамы прозы, паэзіі, драматургіі, літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы, працы па гісторыі, філасофіі... У літаратуру ён увайшоў як буйны раманіст. Класікі польскай літаратуры бачылі ў Крашэўскім свайго настаўніка.

Нашчадкі Крашэўскіх у 20-30-ыя гады 20-га стагоддзя многае зрабілі, каб аднавіць маёнтак у вёсцы Доўгае. З'явіўся і новы кнігазбор. Але па закліку мясцовых актывістаў, ужо пры савецкай уладзе ў 1939 годзе, маёнтак быў разабраны да фундаменту, а бібліятэка па-варварску знішчана. Паркавы ансамбль, унікальны па свайму складу дрэў і планіроўцы, высеклі на дровы.

Сёння аб былым маёнтку Крашэўскіх напамінаюць рэшткі муроў, адзінокія здзічэлыя дрэвы ды хмызняк. Не толькі ў старажылаў вёскі, але і ў многіх маладых людзей гэта выклікае боль за згубленую памяць пра славутага земляка. Не захаваўся для нашчадкаў яшчэ адзін куточак нашай непаўторнай гісторыі.

***Мікалай ВОЛЧЫК, настаўнік гісторыі Зеляневіцкай СШ Пружанскага раёна.***

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# ВЯРТАННЕ МІХАСЯ

***Многім вядома, што мінскі кінатэатр "Змена" вылучаецца са спектра падобных установ сваёй беларускамоўнасцю. Скептыкі глядзяць на яго часам нават як на залішне дарагую забаву нейкіх фанатыкаў-патрыётаў у той час, як трэба проста рабіць бізнес: маўляў, купка аматараў яшчэ раз абсмактаць зацёртую стужку кшталту "Мой родны кут" ды пасмаркацца ў лапці занадта малая, каб вытрымліваць канкурэнцыю з праверанымі фаварытамі кінарынку (пераважна замежнай вытворчасці). Але я асабліва пераканаўся, што ўсё зусім інакш.***

Як сведчылі афішы ў метро і на рэкламных тумбах, малады фанаграфічны лэйбл "БМАgroup" менавіта ў кінатэатры "Змена" вырашыў правесці прэзентацыю свайго новага выдання — кампакт-дыска славутага беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага, ураджэнца Пружанскага раёна. А кінатэатр спатрэбіўся для таго, каб яшчэ раз убачыць жывым беларускага генія, якога ўшанаваў увесь свет, а радзіма толькі пачынае адкрываць праз 20 гадоў пасля яго смерці. Карацей, жывога спевака сучаснікі маглі ўбачыць толькі ў фільме рэжысёра Рычарда Ясінскага "Вяртанне Міхася Забэйды".

І вось тут я наяве адчуў, хто чаго варты ў вольнай канкурэнцыі: на правераны кінабестселер "Старыя клячы" ў гэты дзень у "Змене" было куплена толькі сем білетаў, а на сустрэчу з Забэйдам гледачоў набілася поўная зала.

Цяпер Забэйду-Суміцкага мы зможам чуць на новым кампакт-дыску. Змястоўны збор рарытэтаў (аж 74 хвіліны бліскучай музыкі) мае сімвалічную назву "Ластаўкі ў стрэсе". Дый сапраўды ўсе гэтыя песні, нібы птушкі, якія ўпершыню знайшлі свае гнёзды: альбом цалкам беларускамоўны, але запісваўся ён у студыях



Берліна, Варшавы, Прагі, Лондана.

І вось — першае выданне на радзіме, прымеркаванае, дарэчы, да 100-годдзя з дня нараджэння спевака. Бліскучы лічбавы гук, эфектны і змястоўны буклецік, рэдкія здымкі...

На прэзентацыі выступілі і стваральнікі фільма (рэжысёр Рычард Ясінскі, сцэнарыст Іван Цішчанка), выдатны сучасны оперны спявак Віктар Скарабагатаў і, натуральна, выдаўцы кампакт-дыска — Віталь Супрановіч ад "БМАgroup", Вацлаў Арэшка ад грамадскай арганізацыі "Культурны кантакт" ды іншыя.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА.***

АБРАДЫ

# Сімволіка вяселляў

***Спрадвеку чалавек усе значныя моманты свайго жыцця суправаджаў своеасаблівай цырымоніяй і сімволікай. Многае ўжо забыта, але не ўсё. Тое, што засталося, шануецца беларусамі.***

Найдаўжэй сімволіка захоўвалася на вяселлі, дзе кожны яго ўдзельнік імкнуўся апрануцца, як кажуць, па-дзедаўску. Як святыню, захоўваў сямейныя традыцыі.

Пра вяселлі расказваюць этнографы XIX — пачатку XX стагоддзяў П. Штэйн, Е. Раманаў, А. Дамбавецкі і іншыя. Цяпер ужо і школы назапасілі пэўны гістарычны матэрыял па названай тэматыцы.

Паводле сабраных звестак, члены вясельнай дружыны вылучаліся пэўнымі прыкметамі. Часцей за ўсё гэта былі кветкі, якія прышпільваліся злева або справа (у залежнасці ад сямейнага становішча: жанатым і замужнім — справа) да галаўнога ўбору і вопраткі. Прыкметай маладога была кветка, вяночак ці чырвоная жычка.

Маладая была ў вянку з жывых або штучных кветак, што залежала вд пары году. Вянок — сімвал дзявоцтва. Па даўніх звычаях жанчына не мела права надзяваць вянок.

Напрыклад, у вёсцы Шакуны (Пружанскі раён) малады насіў за поясам хусцінку, а на шапцы з правага боку — вяночак з руты. Такі ж вяночак быў у чашніка на шапцы з левага боку, а ў дружкі — з правага.

Акрамя вянка і кветак, сімвалам вясельнай урачыстасці былі ручнік і каравай. У некаторых вёсках перад маладымі над сталом падвешвалі ўбраную "ёлачку".

Адзін з самых пашыраных атрыбутаў вяселля — ручнік. У народзе гавораць: "На ручніку пастаяць — навек пакахаць". Відаць, некалі ён меў нейкае магічнае значэнне, бо без яго не выконваліся асноўныя абрады, звязаныя са шлюбам. Нагадаю радкі з народнай песні "Туман ярам, ярам, далінаю":

**І хто мае вядзерца дастаніць,**
**Той са мной на ручніку станіць.**

Даўней ручнік падсцілалі пад ногі маладым у час вянчання. Нявеста ў хаце маладога вешала свай ручнік на кручок.

Трымаючы за канцы ручніка, сват абводзіў маладых тройчы вакол вясельнага стала, засведчыўшы гэтым заключэнне шлюбу. Сам ён, сват, знаўца абрадаў і галоўны гаспадар на вяселлі, быў перавязаны ручніком і трымаў у руцэ бізун (сімвал улады).

Цікавым дапаўненнем вясельнага ўбору маладога быў маленькі ручнік. Ён насіў яго за поясам усё вяселле. Ручнічок быў не столькі выціральнікам, колькі своеасаблівым упрыгожаннем і вылучаў маладога сярод усіх мужчын.

Яшчэ і цяпер у некаторых вёсках да запясця правай рукі нявесты прывязваюць ручнік, за які амаль усё вяселле трымаецца жаніх, каб паміж імі ніхто не прайшоў. Ручнік на руцэ маладой сімвалізуе непарушнае каханне і дружную сям'ю.



***НА ЗДЫМКУ: убранне свата і сваццi ў пачатку XX стагоддзя (ваколіцы Пружан).***

Ручнік меў пэўнае значэнне і ў сватанні. У сваты ішла, напрыклад, маці жаніха. У хаце нявесты яна сядала на лаву пад ручнік, што вісеў на сцяне.

У XIX стагоддзі на заручынах і ў час сватання згода маладой і яе бацькоў на шлюб выяўлялася ў тым, што ў сватаву барылку ці бутэльку насыпалі жыта і перавязвалі ручніком або поясам, а калі адмаўлялі — у посуд налівалі гарэлку і нічым не абвязвалі. Згода маладой на шлюб пацвярджалася ручнікамі, якія яна дарыла сватам.

У вясельным поездзе ўдзельнічалі дзве дружыны: маладога і маладой. Поезд складаўся з некалькіх фурманак. Вупраж была святочная. На коней надзявалі званочкі, якія прарэзлівым звонам абвяшчалі наваколле аб урачыстасці.

Асабліва старанна ўпрыгожвалі галінкамі бярозкі і стужкамі дугу, а іншы раз прывязвалі ручнік.

Сімвалічнае значэнне на вяселлі мелі і стравы. Каша ці капуста былі апошняй стравай, таму ў народзе ёсць прымаўка: "Пасля кашы — няма пашы". Казалі і так: "Пасля капусты — сталы пусты".

Адзенне маладых і іх сімволіка паступова мяняюцца, але некаторыя старыя традыцыі застаюцца.

Напрыклад, убор маладой яшчэ ў 20-х гадах гэтага стагоддзя быў складаны: белая льняная кашуля з вышыўкай, доўгі андарак у палоску, цёмна-чырвоная шнуроўка (гарсэт) і фартух у складку з чырвонымі ўзорамі. На таліі вісела 20—30 паясоў для падарункаў. Галава ўпрыгожвалася вянком са штучных кветак і доўгімі каляровымі стужкамі, якія звісалі да нізу спадніцы. На грудзях с правага боку прышывалі ружовую кветачку.

На сучасных вяселлях у вёсцы не цураюцца старой абраднасці. Ужыванне зеляніны (мірту, шпарагі, руты, барвінку) ва ўбранні маладых і членаў іх дружыны даволі распаўсюджаная з'ява.

Словам, беларускае вяселле не згубіла сваіх гістарычных каранёў, хоць складалася яно здаўна і мянялася на працягу вякоў.



***Вясковае вяселле.***
***Фота з архіву Ю. ШЫМАНЧЫКА.***

***Мікалай ВОЛЧЫК, настаўнік гісторыі Зеляневіцкай СШ Пружанскага раёна.***

(Працяг. Пачатак у №№ 26—32, 34, 35, 37, 42).

## XII. З ВЁСКІ ВОГНЕННАЙ

# ДЗЕЦІ ВАЙНЫ



**1.**

Бабровічы — некалі вялікая лясная вёска. Размешчана на беразе возера, якое носіць назву Бабровіцкага (у мінулым Вядскае, па назве вёскі, што тут была). Паблізу вёскі на паўночна-ўсходнім беразе возера выяўлены помнік археалогіі — стаянка 10—6-га тысячагоддзяў да нашай эры. Гэта рэшткі шасці вогнішчаў, абкладзеных камянямі. Тут сабрана звыш ста крамянёвых прылад працы і 600 апрацаваных крэмняў.

13 верасня 1942 года немцы спалілі Бабровічы і 676 яе жыхароў. Помнікі ахвярам фашызму пастаўлены ля клуба і на вясковых могілках. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе "Хатынь".

Ці ўдалося каму-небудзь з вяскоўцаў уратавацца ад немінучай і страшнай смерці? Аказваецца, такія былі. Імёны іх сталі вядомы пасля вайны. Мясцовыя жыхары пачалі вяртацца ў родныя мясціны і, па сутнасці, на папялішчы, каб тут, ля возера, зноў будавацца і пачынаць новае жыццё.

Шырокаму колу чытачоў упершыню стала вядома Варвара Адамаўна Слесарчук — жыхарка Бабровічаў. Яна выратавала ад смерці сваіх траіх дзяцей. Яе расказ аб гэтым змешчаны ў кнізе "Я — з вогненнай вёскі" (аўтары Алесь Адамовіч, Янка Брыль і Уладзімір Калеснік).

У той жа верасьнёўскі дзень, рызыкуючы жыццём, ратавала сваіх дзетак і Лізавета Мікалаеўна Чырко. Іншыя вяскоўцы — і дзеці, і дарослыя — ратаваліся самі. Не ўсе, вядома, засталіся жывымі.



*Варвара Адамаўна Слесарчук (фота 1977 года).*

Як жа было ўсё на самой справе? Як склаўся далейшы лёс дзяцей вайны і іх родных? Расказваюць пра гэта жывыя сведкі тых далёкіх падзей.

**2.**

Хата Якава і Варвары Слесарчукоў стаяла трохі наводшыбе ад Бабровічаў. Карнікі паявіліся тут зранку 11 верасня 1942 года, забралі гаспадара і адразу прыняліся за сваю брудную справу. Усіх мужчын вёскі (а гэта 150 чалавек) сагналі ў калгасную канюшню, за вёскай, закрылі, кінулі туды некалькі гранат. Пачаўся вялікі пажар. Тых, хто ўцалеў і стараўся выбрацца з агню, расстрэльвалі і кідалі туды.

— Гэта быў жудасны малюнак, — успамінае жыхар вёскі Сяргей Аляксандравіч Чырко. — Усё сяло галасіла. Нікога да палаючай канюшні не падпускалі. Вакол стаялі ўзброеныя карнікі. Знішчыўшы мужчын, немцы паехалі з вёскі. Ніхто з жыхароў, жанок і дзяцей, што засталіся яшчэ жывымі, не ведаў, што будзе з імі...

Не паспелі вяскоўцы ачомацца ад таго, што адбылося, яшчэ не выплакалі слёзы ўдовы і дзеці, як праз дзень зранку ў нядзелю 13 верасня (заўважце, якая лічба!) карнікі зноў аб'явіліся ў Бабровічах. Вёску ачапілі з усіх бакоў, нікога не выпускалі. Па бегляках, што адважваліся выбрацца з сяла і схавацца ў лесе ці балоце, стралялі. Такога не чакаў ніхто. Людзі стаялі на каленях, маліліся, у сваіх малітвах звярталіся да Усявышняга, прасілі дапамогі і літасці. Яны яшчэ не ведалі, што жанок і дзяцей будуць расстрэльваць і паліць. А вакол крык, плач, лямант, аўтаматныя чэргі. Жанчын і дзяцей зганялі ў хаты, закрывалі, кідалі ў акно гранаты, а потым, як і мужчын, дабівалі, хто імкнуўся выбрацца з агню.

**3.**

Варвару Слесарчук з дзяцьмі Насцяй, Маняй і Васем загналі ў Астапаву хату.

Успамінае Настасся Якаўлеўна, старэйшая дачка Слесарчукоў:

— Мая маці, плачучы, звярталася да сваіх вяскоўцаў: "Уцякайма, бабкі, усё роўна нас паб'юць. Мо хто-небудзь і ўратуецца. Бачце, што робіцца. Лепш ад кулі ўпасці, чым жарыцца ў агні. Папаліць нас немец. Ой, папаліць".

Помню, амаль ніхто не зварухнуўся з месца, сядзелі, як тыя авечкі, хаця ўсе стагналі і плакалі. Праз хвіліну—другую адна жанчына, здаецца, Астапава маці, схапіўшы за руку хлопчыка, знікла за дзвярыма. Потым і наша маці, узяўшы на рукі Васю (яму было толькі два гадкі), праз Астапаў двор хуценька павяла нас на агарод. Але тут па голасе пазналі, што ідуць немцы, і мы пападалі ля хлява. З аднаго боку на нас навісала зелле...

А тым часам немцы падпальвалі ўсе гаспадарчыя пабудовы, ішлі і па парадку палілі. Запалаў і той хлеў, ля якога ляжала Варвара са сваімі дзяцьмі.

— Я і сёння не магу забыць, — кажа Настасся Якаўлеўна, — як мой брацік Вася шаптаў: "Мамо, уцякайма. Нас не паб'юць, мамо". А мама яму: "Паб'юць, Васька, паб'юць. Толькі маўчы, сынок". І ўкрывае нас то зеллем, то пяском сыпле на галовы, каб не зусім абгарэлі. Ох і нацярпеліся. Я думала вось-вось згарым. А мама ўсё шэпча: "Маўчыце, дзеткі, маўчыце. Скоро ўжэ..."



*Настасся Якаўлеўна Дубінка (фота 1980 года).*



*Марыя Якаўлеўна Мордус (фота 1975 года).*

А па-ранейшаму двое немцаў стаялі ля каподзежа, пілі ваду, аб нечым між сабой гаварылі. Калі паўзці, то абавязкова заўважаць і пачнуць страляць. А так заставалася нейкая надзея. Варвара скарыстала момант, калі немцы адвярнуліся, хуценька адпаўзла з дзеткамі ад палаючага хлява ў разору. І тут было горача, але ўжо можна было трываць.

**4.**

— Адкуль ні вазьміся, — ужо гаворыць Марыя Якаўлеўна Мордус, — ля разоры паявілася велікаватая свіння. Пачула, што тут людзі, і, рохкаючы, пачала лычом сваім штурхаць нас у бакі. Маці тыцнула, як магла, у яе рукой і адагнала ад сябе. Тая і пасунулася далей па агародзе. І тут, як назло, мяне пачаў давіць кашаль. Маці заціснула мне рот рукой, каб не навесці на сябе немцаў і зноў шаптала: "Пацярпі трошкі, Манька, пацярпі..." Прыходзілася цярпець. Нават малы Васька суцішыўся, прытуліўся да маці. Не плакаў і не пытаў нічога. Не ведаю, што было б з намі, калі б немцы не адышлі далей...

Выбраўшыся на Астапаў поплаў, Варвара з дзецьмі яшчэ крыху паляжала на зямлі, чакала, калі яшчэ больш змеркнецца, каб пайсці далей ад гэтага страшнага месца.

— Павяла нас маці да Выганашчаў, — гаворыць Настасся Якаўлеўна. — Мы ведалі, што там жыве мацярын дзядзька, і думалі, што ў яго знойдзем прытулак. Ужо ў вёсцы даведаліся, што дзядзьку, як і нашага бацьку, застрэлілі немцы. А дзядзіна і кажа маці: "У-у, ужэ так табе, можэ, не надо жыці на свеце, ужэ табе самой у агонь надо бегчы. Дзяцей у цябе многа, да ты бярэменна яшчэ — дзе табе проці зімы!" Але ж у сваю хату часова пусціла, а праз тыдзень сказала: "Шукай кватэру. З-за цябе, недабійку, і каб нас не пабілі немцы..."

Прыйшлося Слесарчукам шукаць новае жытло. Пасяліліся ў беднай выганашчанкі. Бо тая дзядзіна вельмі ж скупая была. Трэсак не давала, каб у печцы падпаліць. Чыгунчыка нават шкадавала, каб дзеткам зварыць салёнікаў ці крышаноў. Таму і пайшлі ўсе ў чужую хату ад матчынай сваячкі.

Каб нешта мець і нечым карміць дзяцей, Варвара хадзіла ў Красніцу. Яе, як і Бабровічы, дашчэнту спалілі карнікі. Там на агародах капала бульбу, хадзіла па папялішчах і шукала хаця б якога посуду. На агародах і ў садах засталіся вуллі з мёдам. Закруціўшыся ў першыя папаўшыя латкі, Варвара здабывала мёд і насіла сваім дзеткам. Аднойчы, несучы прадукты, яна ўбачыла, што Выганашчы гараць. Быў якраз моцны вецер, і агонь кідала аж праз дзесяць хат. Заплакала Варвара, забожкала: "А дзе ж мае дзеткі? А што з імі?"

**5.**

— Як пачалі паліць Выганашчы, — успамінае Настасся Якаўлеўна, — мы самі рашылі ратавацца. Маці яшчэ з Красніцы не вярнулася. Я ўзяла Васю на плечы і з Маняй пайшлі з выганашчанцамі. Многія пакідалі вёску на вазах. Мы прасілі, каб нас узялі на воз, хаця б малога Васю, але ніхто нават не паспачуваў. "Няма куды, сваіх во колькі", — казалі нам. Ніхто на нас, чужых, не звяртаў увагі. Але мы хоць і адставалі ад усіх, аднак спяшаліся, каб немцы нас не дагналі. Зайшлі мы далёка ў лес, на балота. Гэта месца называлі "Бярэзіна". Тут нас і знайшла маці. Якраз сонца заходзіла...



*Дуб на могілках у Бабровічах, пад якім хаваліся дзеці Варвары Слесарчук.*

— Мне тады было восем гадоў, — уступіў у размову Раман Якаўлевіч, старэйшы сын Варвары. — Сустрэўся я са сваімі праз чатыры дні. Мы ўсе пайшлі ў другое балота паміж Выганашчамі і Бабровічамі. Да Бабровіч, як я сёння прыкідваю, было кіламетраў з чатыры, а да Выганашчаў трохі менш. Маці знайшла тое месца, дзе з мужам, маім бацькам Якавам, касілі сена. Шчэ стажкі стаялі. Тут ля стажка і сядзелі мы. Маці пачала бульбу чысціць, збіралася салёнікаў зварыць. Але раптам пачулася нейкае галёканне. Мы падумалі, што хтосьці з жыхароў шукае сваіх дзяцей і паўставалі з-пад стажка. А тут з-за куста выскачылі два паліцаі. Адразу схапілі маці. "А дзе астатнія людзі?" — спыталі ў яе. "Пабеглі ў лес" — адказала яна. "Ідзі на воз!" — скамандавалі яны. І адразу да мяне: "Дзе твой бацька?" "Няма, немцы майго бацьку забілі", — адказаў я. "Ідзі з маці на воз!" — загадалі паліцаі. Але на воз я не пайшоў. Разам з маці пабеглі ў кусты, а там — у балота. Чарот высокі, трава. Залезлі так далёка, што нас ніхто і не шукаў. Суха тады было, можна было ісці і ісці па балоце. Але ўсе стаміліся, бо Васю па чарзе неслі...



*Раман Якаўлевіч Слесарчук (фота 1955 года).*

Спярша Вася піць прасіў, але вады блізка не было, а хадзіць і шукаць стала небяспечна. А ён усё енчыць: "Вады, вады..." Тады Варвара сказала Роме: "Памачыся ў чыгунчык і Ваську напоім". "Няўкусная вада, мамо, — сказаў Васька. — Ідзі, шукай смачнай вады!" Ніхто нікуды не пайшоў, бо наступала цёмная восенская ноч...

**Святаслаў КАЖАДУБ.**

**Івацэвіцкі і Бярозаўскі раёны.**

*(Працяг будзе).*



*На гэтым месцы, паблізу могілак, жылі людзі ("Стараселле").*

● ХАЧУ ПАДЗЯЛІЦЦА

# Працуем прафесіянальна

Групай работнікаў МНС РБ у складзе шасці чалавек была праведзена комплексная праверка аператыўна-службовай дзейнасці пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада г. Івацэвічы і Івацэвіцкага раёна. У склад ПАВА ўваходзяць тры пажарныя аварыйна-выратавальныя часці (г. Івацэвічы, г. Косава, г. п. Целяханы) і 6 пажарных аварыйна-выратавальных пастоў, размешчаных у вёсках Горталь, Аброва, Вулька -Аброўская, Быцень, Дабромысль, Мілейкі. Дыслакацыя падраздзяленняў ПАВА забяспечвае час прыбыцця іх на пажар у сярэднім на працягу не болей за 18 мінут, сярэдні радыус выезду складае не болей за 7 км. У распараджэнні пажарных 19 баявых асноўных машын і 2 спецыяльныя. Створаная ў падраздзяленнях атрада вучэбна-трэніровачная база дазваляе на высокім узроўні ажыццяўляць прафесійную падрыхтоўку асабовага саставу. Ва ўсіх падраздзяленнях пабудаваны вучэбна-трэніровачныя вежы, стомятровыя паласы з перашкодамі, спортпляцоўкі. Маецца палігон псіхалагічнай падрыхтоўкі пажарных, цэнтр псіхалагічнай разгрузкі, цэнтр навучання пажарнай бяспецы насельніцтва. Ва ўсіх будынках ПАВА і ПАВЧ праведзены ўнутраныя і вонкавыя касметычныя рамонты. Цалкам завершана падрыхтоўка да зімовага перыяду.

Правяраючыя падкрэслілі, што ў раёне яшчэ не да канца ўсвядомлена роля падраздзялення, як ключавога звяна ў галіне кіраўніцтва функцыянаваннем сістэмы папярэджання і ліквідацыі надзвычайных сітуацый у раёне. Пытанні забеспячэння тэхнічнай і пажарнай бяспекі, умацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы аварыйна-выратавальных падраздзяленняў раёна, рамонту пячнога і электрычнага абсталявання ў дамах маламаёмных і састарэлых грамадзян нават не знайшлі адлюстравання ў праграме сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна на 2000 г. Яшчэ не прынята перспектыўная праграма развіцця і ўдасканалення сістэмы папярэджання і ліквідацый надзвычайных сітуацый у раёне.

Усяго ж за 10 месяцаў бягучага года падраздзяленнямі ПАВА патушана 106 пажараў у населеных пунктах раёна, 9 лясных, 29 тарфяных пажараў, ліквідавана 184 аварыі. Вынікі праверкі наступныя: дзейнасць Івацэвіцкага ПАВА ў цэлым адпавядае прад'яўляемым патрабаванням.

*Аляксандр ВАРАБЕЙ,*
*нам. начальніка ПАВА*
*г. Івацэвічы*
*і Івацэвіцкага раёна.*

● ЧТО ВОЛНУЕТ

# Деревня моя, деревянная, дальняя...

***Постепенно вымирают некоторые деревеньки — сторожилы Пружанского района. Взрослеют и разъезжаются дети, решив искать лучшей доли в городе, все реже приезжают навестить бабушек и дедушек внуки. Оно и понятно, объясняют старики, все нынче заняты добычей хлеба насущного: работа — у детей, учеба — у внуков.***



*Фото IREX/ProMedia.*

Типична история и небольшой деревеньки Ольшаны, что совсем скрылась в листве вековых деревьев.

"Когда-то весело здесь было, жизнь кипела вовсю", — вспоминают сторожилы. Из местных достопримечательностей называют начальную школу, сельский клуб с танцами-посиделками и библиотекой. И, конечно же, местный сельмаг, у стен которого всегда было людно, оживленно. Ну где еще можно было встретить соседку и посудачить о наболевшем, как не здесь, в родном сельмаге? Ассортимент товаров в сельском магазине был самый разнообразный: и хлебобулочные изделия, крупа, соки и напитки покрепче, и товары широкого потребления.

Но со временем некого стало учить и закрыли школу, некому стало плясать (старикам ведь не до лихих плясок) и закрыли местный клуб. Правда, со временем ему нашли применение. Осенью клуб радушно распахивал двери для... заезжих братьев-украинцев в качестве постоялого двора. Помощь братской Украины ежегодно использовалась на колхозных работах. Своими силами собрать урожай ольшанцам уже невмоготу. Горсточка их осталась, да и те старики уж совсем.

Некоторое время жизнь по-прежнему кипела в сельмаге. Продавщица из д. Оранчицы каждый день привозила со станции свежие новости и не скупясь делилась ими с сельчанами. Здесь же можно было приобрести необходимые в хозяйстве продукты и товары. Правда, теперь уже ассортимент значительно поредел. Но сельчане радовались и этому. "Благо, что хоть хлеба можно купить".

Но, как оказалось со временем, местным властям накладно стало содержать торговую точку.

И пришло последнее страшное известие в деревню: магазин, единственную радость, оставшуюся с лучших времен, закрывают за ненадобностью.

И закрыли. И не работает больше сельмаг. И не собирает у стен своих сельчан. И совсем одиноко стало старикам, и совсем пустынно выглядит одна-единственная улица в деревне. "А чего уж тут ходить-бродить? Идти-то некуда".

Правда, местные власти проявили все-таки заботу об ольшанцах. Теперь, два раза в неделю, курсирует в Ольшаны автолавка с самым необходимым. "Главное, чтоб хлеб был", — говорят старики.

Да вот только хлеб почему-то не всегда свежий. Да и не хлебом ведь единым жив человек!

*Кристина КРУГЛЕВИЧ.*
*г. Пружаны.*

● СПАБОРНІЦТВЫ

# Турнір па турызму

У Брэсце прайшоў II адкрыты абласны турнір па турызму, прысвечаны памяці цудоўнага чалавека, турыста, краязнаўцы, педагога Уладзіміра Антонавіча Прудзелюка, які 33 гады аддаў дзецям, каб яны змаглі ўбачавідкі пабачыць свет ад палескіх балот да завоблачных вяршыняў Каўказа.

Удала выступілі на спаборніцтвах прадстаўнікі нашага рэгіёна. У агульнакамандным заліку два першыя прызавыя месцы занялі школьнікі-турысты Баранавіцкага і Пружанскага раёнаў.

*Алесь САШЫН.*

● БЕЗ САКРЭТАЎ

# ЖУРНАЛІСТ, ВАНДРОЎНІК, ЛЕКТАР

***У кастрычніку Бярозу з прыватным візітам наведаў Чарльз Уайлі — сусветна вядомы ваенны карэспандэнт (зараз на пенсіі) і лектар. У СШ № 2 была арганізавана сустрэча яго і школьнікаў.***

***Ён прыязна згадзіўся даць эксклюзіўнае інтэрв'ю няштатнаму карэспандэнту нашай газеты.***

**— Містэр Уайлі, вы працавалі ў шэрагу краін свету. Раскажыце, у якіх!**

— Ведаеце, я наогул наведаў каля 100 краін свету. Найбольш часта бываў у Афганістане, Алжыры, В'етнаме. У В'етнаме я быў чатыры разы: у 1962, 1964, 1967 і 1970 гадах. З гэтай краінай у мяне, дарэчы, звязана многа ўспамінаў. У тыя часы я працаваў на NBC, UPI і London Express. У мяне быў напарнік, з якім мы працавалі па зменах: я працую месяц, потым ён месяц. Дык вось, у той час маім зменшчыкам быў навічок; ён не меў ніякага ўяўлення пра звычайную асцярожнасць на вайне.

Аднойчы ён і некалькі салдат-ахоўнікаў сядзелі ў кафэ. У той час у памяшканне заляцела граната. Усе ахоўнікі кінуліся на падлогу, а новы рэпарцёр доўга думаў. Праз 10 хвілін ён быў без галавы. Дагэтуль лічу гэта адной са сваіх памылак — не папярэдзіў яго аб звычайнай асцярожнасці.

**— Безумоўна, вы неаднаразова траплялі ў небяспечные становішча. Што дапамагала выжыць у экстранеардынарных умовах!**

— Вопыт і перасцярога. Як кажуць, таго, хто не лезе ў пекла, сам Бог ахоўвае. Калі ў цябе сям'я і дзеці, калі ты павінен працаваць, то неабавязкова лезці пад самыя кулі ў пошуках сенсацыі. Перш за ўсё трэба думаць пра жыццё.

**— А як вы ставіцеся да вайны ў В'етнаме зараз, праз некалькі дзесяцігоддзяў!**

— Гэта адна з нашых памылак. Прычым непрыгожая і адна з найбуйнейшых. Зараз, калі ўвесь свет ведае праўду, ён сорамна за тую армію і за той урад. Думаю, што гэта накшталт вашай памылкі ў Афганістане.



**— Так Афганістан — гэта наш боль. Дарэчы, ці мелі вы зносіны з журналістамі з СССР падчас вашай працы!**

— Амаль не. Ведаеце, мы знаходзіліся па розныя бакі барыкад, прадстаўлялі розныя, так бы мовіць, полюсы, таму не мелі права на нейкія зносіны. Халодная вайна была.

**— Думаю, нашаму чытачу будзе вельмі цікава даведацца пра тое, як вам працавалася ў Афганістане...**

— Так, я працаваў у Афганістане даволі працяглы час. Жыць і працаваць мне даводзілася сярод маджахедаў. Дарэчы, вельмі добрыя людзі. Праўда, мне ўвесь час даводзілася мяняць месца дыслакацыі, бо савецкая ваенная авіяцыя пастаянна пераганяла нас з месца на месца.

Думаю, што Афганістан — гэта той жа В'етнам. Тут Савецкі ўрад пайшоў супраць незалежнага народа, і, як вынік, паражэнне. Таму што народ, які змагаецца, нельга перамагчы. Паверце гэтаму мне — я многа бачыў.

**— Але пойдзем далей: ці наведвалі вы нашу краіну раней!**

— Так, у 1962 годзе я прыехаў у Маскву на заданне. Але ў КДБ прасачыліся дадзеныя пра мае антысавецкія погляды. Мяне выклікалі на размову з Сямёнам Сямёнавічам — даволі значнай асобай тагачаснай улады. Але ўсё ж такі мяне вышпурнулі з СССР, як гнілы яблык.

**— Раскажыце пра апошнія вашы падарожжы. Наколькі вядома, вы зараз на пенсіі.**

— Ведаеце, я і зараз працую. Я езджу па Еўропе, праводжу разнастайныя семінары, чытаю лекцыі. Выступаў, дарэчы, з курсам лекцый у Пецярбургскім універсітэце. Выступаю на розных дэмакратычных семінарах. Супрацоўнічаю з грамадскімі арганізацыямі. І проста вандрую.

**— Наша моладзь зараз часта ездзіць у Амерыку. Але паміж імі і іх амерыканскімі аднагодкамі існуе бар'ер, значна большы за моўны. У чым розніца!**

— У культуры. У культуры, традыцыях, звычках, светапоглядах. Нашы дзеці выраслі ў поўным дастатку. Здаецца, у іх няма праблем у матэрыяльнай сферы. Але яны нешчаслівыя ў параўнанні з вашымі дзецьмі. У вас ёсць стымул — чагосьці дамагчыся ў жыцці. У нашых юнакоў і дзяўчат — усё гатовае. Ім нічога больш не трэба. Але потым яны пачынаюць задумвацца. А потым — шмат выпадкаў суіцыду.

**— Немалаважную ролю для нашай моладзі іграе кінематограф ЗША, заходняя музыка. Гэтая культура хлынула зараз да нас, на Беларусь. Як вы ставіцеся да гэтага!**

— Ну, наконт кіно мая пазіцыя супадае з вашай — зашмат гвалту і крыві. Я бачыў гэта на свае вочы, але навошта гэта глядзець падлеткам?

Слухаю пераважна класіку — Сінатру, Бітлз, але моладзь захапляецца іншым: BON Jovi, Madonna — гэта яшчэ можна ўспрымаць, але рэп, хіп-хоп — няўжо гэта можна слухаць? Бум-бом-бах!

Ваша краіна разам з дэмакратычнымі свабодамі ўсмоктвае і гэта. Не думаю, што гэта добра.

**— Якія вашы ўражанні ад Беларусі!**

— Цудоўныя, выдатныя! Уражвае ўсё: людзі, гарады, прырода, спецыфіка вашага жыцця. Толькі што мне патлумачылі, што такое дача. Колькі ні думаў — не дадумаўся б. Брэсцкая крэпасць уразіла вельмі. Гэтыя руіны, манументы, музеі, спісы загінуўшых — я такога не бачыў. Вашы людзі — цікавыя суразмоўцы.

**— Вялікі дзякуй, містэр Уайлі, за тое, што вы адказалі на нашы пытанні. Наведвайце Беларусь яшчэ. Спадзяюся, вам тут спадабалася.**

— Канешне. Good Lock!

*Гутарыў*
*Міхась ПАШКЕВІЧ.*

ПРОВИНЦИАЛЬНЫЕ ИСТОРИИ

# Будем жить!

## Когда верить депутатам?

"Хорошую" передачу ведёт на радио всем известная Чайка, столько интересного можно узнать! Однажды, накануне выборов, слушала одного депутата "по вызову". Умнейший человек, осыпая слушателя специфическими терминами, доходчиво доказывал, что прямая обязанность народного представителя в правительстве сидеть в Палате (почему у неё нет номера — не знаю), а не помогать своим избирателям в насущных проблемах.

Наступила пора выборов, и довелось услышать от тогда ещё кандидатов совсем другое. Голосуйте за меня — привезут дрова, откроют магазин — вот некоторые из призывов этих людей. Как видно, речи прямопротивоположные. Так когда им верить?

## Есть же покупатели

Последняя электричка из Бреста на Минск. У окна сидят две женщины, которые, судя по разговору, только что познакомились:

— Знаете, была в прошлое воскресенье на "Динамо" (базар в Минске). Смотрю — продают котят пушистых, серенъких. Так понравились, что решила спросить цену. Двадцать пять тысяч. И я решила, что раз их продают, значит и покупают. Но кто эти покупатели?

## Никому не стоит помогать?

Молодой человек в городском автобусе что-то отчаянно пытался доказать своим собеседникам. Вслушиваюсь:

— Только через независимые газеты можно найти правду. В государственные не стоит и обращаться,— парень говорил это с видом человека, уверенного в своей правоте. На это ему активно возражала бабушка, которой некая "раёнка" когда-то помогла. И этот диспут ещё долго бы продолжался, если бы не...

— А кому нужна ваша правда? Кто просил вас о помощи? Неужели о помощи вас просили те, кто с утра ищет, чем опохмелиться? А таких сейчас большинство,— только и сказал мужчина, который всю дорогу смотрел в окно и после сказанного возвратился к своему занятию.

## Как живём — так поём

Нечаянно подслушала разговор двух пенсионеров:

— Получил пенсию в 31 миллион. Ну вот скажи, Коля, как на неё просуществовать?

Да, раньше слово "существовать" резало слух, а сейчас к нему привыкли даже пенсионеры.



## Дочь

У меня родилась дочь. И сразу же все проблемы, кроме всем известных хлопот, отошли на второй и даже третий план. Я знаю, что потом буду думать, как на нищенскую зарплату мужа прокормить и одеть её. Но сейчас это всё второстепенно, теперь же у меня родилась дочь. Будем жить!

*Кристина КРУГЛЕВИЧ.*
*г. Пружаны.*

ГОЛАС НАРОДА

# ЦІ ВЕРЫЦЕ ВЫ Ў ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ СМЕРЦІ?

***Пагадзімся, само чалавечае жыццё ці, дакладней, пытанне адкуль яно ўзялося, да гэтага часу выклікае шмат меркаванняў. Чалавеку таксама цікава і тое, што з ім станецца пасля смерці. Не ўсе вераць, што з таго часу, як перастае працаваць мозг, чалавек пераходзіць у небыццё назаўсёды. Гавораць пра бессмяротную душу, шмат апісанняў "адлёту" душы можна прачытаць і на старонках газет. А давайце пацікавімся ў звычайных прахожых у горадзе Бяроза, ці вераць яны ў жыццё пасля смерці?***



**Ганна Іванаўна:** Веру ва ўсё, што напісана ў Біблії і ні ва што іншае. Душа выходзіць з цела і адпраўляецца ў ад ці рай.



**Сяргей:** Жыццё пасля смерці? Гэта ўсё казкі для дзяцей. Пасля смерці нічога няма. І ва ўсялякія гісторыі з тунэлямі са святлом я таксама не веру. Усё больш празаічна на самой справе. Да таго ж туды ніхто не спяшаецца, не імкнецца.



**Наташа:** Складанае пытанне. Я вось жыву сённяшнім днём. І муж мяне гэтаму ж вучыць. Гаворыць, што жыць трэба сёння і зараз. Калі вочы чалавека заплюшчваюцца — гэта ўжо ўсё... а вось для іншых жыццё ўсё ж працягваецца.



**Света:** Веру ў жыццё пасля смерці. Шмат прачытала розных здарэнняў у літаратуры, фільмы бачыла. Праўда, ад веры гэтай робіцца страшна, бо калі ёсць пекла і рай, то душа некуды ж трапіць. А грахоў, калі шчыра гаварыць, у кожнага шмат.

ХХХ

***Такія вось адказы мы пачулі ад людзей. Але што б ні было там, за рысай жыцця, пажадана, каб кожны з нас ішоў па жыцці з чыстай душой і светлымі думкамі.***

*Наталля КАПЫЦІЧ,*
*Аляксандр ГОРБАЧ (фота).*

ПРОБА ПЕРА

## Что потом?

Заплети для меня
октябрь
Половину его проживу.
А потом посмотрю,
как земля
Остаётся верна каблуку.

А потом посмотрю
на тень
Догорающих городов,
Улетая в руках дождей
И бессилия честных
слов.

А потом я тебя пойму —
Парикмахера без души.
Ты — слепой, на чужом
дыму
Выращиваешь вши.

Для меня заплети
октябрь
И страну спасти
помоги,
Чтоб потом дорогая
земля
Зажевала мои каблуки.

*Юлия ТЕЛЬПУК.*
*г. Пружаны.*

## Моя жизнь как немое кино...

Занавешеное окно,
За стеклом голубое
небо.
Моя жизнь как немое
кино,
Как колючее жёлтое
сено.

Где-то слышится
старенький вальс,
И упавшая с неба
звезда.
Даже солнце не светит
для нас,
Ты уходишь, как
навсегда.

А в саду расцвела
сирень,
Средь холодных снегов
зимы.
У земли наступила
мигрень,
Она послушна законам
тьмы.

Миром правит
безмерная ложь,
Человеческая клевета,
Ранит сердце, словно
нож,
И война уже —
красота.

Где-то льётся невинная
кровь,
Да и сколько уже
пролилось,
И в сердцах не живёт
любовь,
Лишь обида, зависть и
злость.

И улыбка не красит
лицо,
И слеза не бежит
от счастья,
И петля обязательна, как
кольцо
Обручальное, но
не счастья.

Нету веры в завтрашний
день,
Нету даже людского
доверия,
Радость ходит, как
страшная тень,
И закончено наше
терпение.

## Я люблю вас

Я люблю вас, но нету
надежды,
Что вы тоже в меня
влюблены,
Что когда-нибудь
словом вы нежным
Разорвёте оковы
струны

Той струны, что потом
даст звучанье,
И вы скажете
счастья слова,
И я больше не буду
печальной,
Как убитая горем
вдова.

Улыбнитесь вы мне
хоть чуть-чуть,
Подойдите ко мне
ненароком,
И скажите вы мне
что-нибудь,
Этот шаг ваш не будет
пороком.

*Светлана АНТОНЧИК.*
*г. Берёза.*

НА ХВАЛІ СУСВЕТУ

## Аўстрыя выплаціць грошы

Федэральны ўрад Аўстрыі збіраецца выплаціць кампенсацыю асобам, якія прыцягваліся нацыянал-сацыялісцкім рэжымам да рабскай і прымусовай працы. Аб гэтым 24 кастрычніка ў Вене падпісана пагадненне паміж беларускім і аўстрыйскім бакамі. Аляксандр Пятроў, які ўзначальваў беларускую дэлегацыю, падкрэсліў, што ўрад Беларусі і Фонд узаемадзеяння і прымірэння зробяць усё, каб беларускія грамадзяне, чыя прымусовая праца выкарыстоўвалася ў гады вайны на тэрыторыі Аўстрыі, аператыўна і без затрымак атрымалі прызначаную ім кампенсацыю. Для Беларусі на 8 тысяч 798 чалавек выдзяляецца 270 мільёнаў аўстрыйскіх шылінгаў (гэта каля 38,5 мільёна марак ФРГ).

## Перабралі з мачавінай

Еўрапейская камісія пачала антыдэмпінгавае расследаванне супраць шэрага вытворцаў карбаміду (мачавіны). Сярод іх апынулася і гродзенскае аб'яднанне "Азот", доля прадукцыі якога на рынках Еўрапейскага Саюза складала шэсць працэнтаў. Як адзначыў прэс-сакратар МЗС Павел Латушка, гэта не значыць, што ўся мачавіна імпартавалася з парушэннем заканадаўства. Сам вытворца збіраецца супрацоўнічаць з Еўрапейскай камісіяй, каб расследаванне праходзіла аб'ектыўна. І рабіць нейкія высновы можна будзе толькі тады, калі камісія ўсё праверыць.

## Угрожает голод

До одного миллиона жителей Афганистана могут погибнуть от голода в результате самой сильной за последние 30 лет засухи, поразившей эту страну.

Как заявил представитель Всемирной продовольственной программы (ВПП) в Афганистане Жерар ван Дийк, если не будет оказана срочная помощь, пик голода придётся на февраль-март. По его подсчётам, для того чтобы обеспечить выживание населения, пострадавшего от засухи, необходимо по меньшей мере 115 тыс. тонн продовольствия, для закупки которого потребуется 54 млн. долларов. Резервы же ВПП иссякнут, если их не пополнить, уже в феврале будущего года.

По данным ООН, от последствий засухи сейчас в той или иной степени страдают от 8 до 10 млн. афганцев.

## Кітай: перапіс насельніцтва

У Кітаі пачаўся ўсеагульны перапіс насельніцтва, у ходзе якога будуць зафіксаваны змяненні дэмаграфічнай сітуацыі ў краіне з самай вялікай у свеце колькасцю жыхароў — каля 1,26 млрд. чалавек.

Перапіс абыдзецца ў 60 млн. долараў. Па меркаванні экспертаў, гэты перапіс дазволіць выявіць каля 30 млн. чалавек, якія да гэтай пары не былі зарэгістраваныя. З тых часоў, як у1990 годзе быў праведзены апошні перапіс насельніцтва КНР, у краіне адбыліся вялікія перамены, якія суправаджаліся хуткім старэннем кітайцаў і міграцыяй многіх жыхароў сельскай мясцовасці ў гарады.

З уводам у дзеянне дэмаграфічнага плана, згодна з якім кожная сям'я можа мець толькі адно дзіця, кітайцы пачалі выкарыстоўваць усялякія хітрасці для таго, каб не рэгістраваць дзяцей, якія з'явіўся "звыш нормы". Па меркаванні спецыялістаў, акрамя 20 млн. афіцыйна рэгіструемых нованароджаных, у Кітаі штогод нараджаецца каля 25 млн. дзяцей, існаванне якіх хаваецца ад уладаў.

## ЕС плануе ўвесці адзіны пашпарт

Еўрапейская Камісія — выканаўчы орган ЕС — распрацоўвае план замены вокладак пашпартоў для грамадзянаў усіх 15 краінаў, якія ўваходзяць у Саюз. Яна будзе выканана ў колерах сцяга ЕС — нябесна-блакітны з 12 пяцікантнечнымі зоркамі, размешчанымі па крузе.

Падставай для змянення стала жаданне зрабіць адзінаўзорныя дакументы, якія засведчваюць асобу грамадзянаў адзінай Еўропы. Гэта, па меркаванні распрацоўшчыкаў праекта, дазволіць пазбегнуць непаразуменняў у марскіх і паветраных портах Старога Свету. Акрамя таго, такім чынам ёсць намер спрыяць росту агульнаеўрапейскай ідэнтычнасці ў грамадзянаў розных краінаў. Увесці ў дзеянне новую форму пашпартоў мяркуецца на працягу 10 гадоў.

## Юбілей рэзідэнцыі

Беламу дому спаўняецца 200 гадоў. За два стагоддзі ў ім жылі і працавалі 40 прэзідэнтаў ЗША. З нагоды юбілейнай падзеі ў Злучаных Штатах Амерыкі выпушчаны 125 мільёнаў марак з выявай галоўнай рэзідэнцыі амерыканскага прэзідэнта.

***(Па старонках рэспубліканскіх газет).***

